



Жыве Беларус

# БЕЛАРУС

Address: P. O. Box 3225
Farmingdale, NY 11735

BIELARUS / Belarusan newspaper in Free World
Published by the Belarusan American Ass'n Inc ISSN 1054-9455

№ 502 Лістапад 200
Год выданьня 55


# Акт аб дэмакратыі ў Беларусі

*Спачатку 4 кастрычніка Палата прадстаўнікоў, а затым 6 кастрычніка Сэнат прынялі «Акт аб дэмакратыі ў Беларусі». А 20 кастрычніка Акт падпісаў Прэзыдэнт ЗША Джордж Буш, і ён набыў сілу закона.*

*Дакумэнт прадугледжвае ўвядзеньне ЗША санкцыяў у выпадку адмовы ўладаў спыніць перасьлед апазыцыі й незалежных СМІ, расьледаваць выпадкі палітычна матываваных зьнікненьняў людзей. Для шэрагу беларускіх чыноўнікаў будзе зачынены доступ на тэрыторыю ЗША, забаронены стратэгічны экспарт у Беларусь і дзяржаўныя інвэстыцыі, а таксама зробленыя захады да скарачэньня фінансавае дапамогі з боку міжнародных фінансавых інстытутаў. Акт прадугледжвае абнародваньне зьвестак аб экспарце беларускай зброі ў краіны, што падтрымліваюць тэрарызм і публікацыю зьвестак аб даходах прэзыдэнта краіны й іншых найвышэйшых чыноўнікаў.*

*Беларуская апазыцыя вітала гэты Акт, а Лукашэнка на наступны дзень рэзка раскрытыкаваў усіх — Амэрыку, Эўропу, НАТО. Відаць, зачапіла тое, што могуць распавесьці пра ягоныя банкаўскія рахункі. Праўда, Лукашэнка заявіў, што Акт вельмі добры падарунак напярэдадні рэфэрэндуму, які дадасьць, сама мала, 10 адсоткаў галасоў.*

РАЗЬДЗЕЛ 1. КАРОТКІ НАЗОЎ.

Гэты Закон прапануецца назваць «Акт аб дэмакратыі ў Беларусі 2001».

РАЗЬДЗЕЛ 2. ВЫЯЎЛЕНЫЯ ФАКТЫ.

Кангрэс выявіў, што —

(1) Злучаныя Штаты жыцьцёва зацікаўленыя ў кансалідацыі і ўмацаваньні незалежнасьці і сувэрэнітэту Рэспублікі Беларусь і ў яе інтэграцыі ў эўрапейскую супольнасьць дэмакратычных дзяржаваў;

(2) Злучаныя Штаты падтрымваюць спрыяньне дэмакратыі, прынцыпам прававой дзяржавы і павазе да правоў чалавека ў Беларусі;

(3) у лістападзе 1996 году беларускі прэзыдэнт Аляксандар Лукашэнка арганізаваў супярэчны закону і канстытуцыі рэфэрэндум, які дазволіў яму навязаць беларускаму народу новую канстытуцыю, распусьціць стары парлямант — Вярхоўны Савет XIII скліканьня, замяніць яго паслухмяным заканадаўчым органам і падоўжыць свае паўнамоцтвы да 2001 году;

(4) у траўні 1999 году беларуская апазыцыя аспрэчыла незаконнае падаўжэньне Лукашэнкам свайго прэзыдэнцкага тэрміну, арганізаваўшы альтэрнатыўныя прэзыдэнцкія выбары, на якія ўлады адказалі рэпрэсіямі;

(5) беларуская апазыцыя арганізоўвала мірныя дэманстрацыі супраць рэжыму Лукашэнкі ў вялікіх і малых гарадах па ўсёй Беларусі, сярод іх — Марш-Свабоды-I 17 кастрычніка 1999 году, Марш Свабоды-II 15 сакавіка 2000 году, Чарнобыльскі Шлях 26 красавіка 2000 году, якія адбываліся ў Менску і ў якіх бралі ўдзел дзясяткі тысячаў беларусаў;

(6) рэжым Лукашэнкі адказаў на гэтыя мірныя шэсьці жорсткімі нападамі сілаў бясьпекі, масавымі арыштамі, працяглымі затрыманьнямі і зьбіцьцём;

(7) Андрэй Клімаў, дэпутат апошняга дэмакратычна абранага парляманту Беларусі, надалей утрымваецца ў зьняволеньні пры цяжкіх умовах за палітычны супраціў Лукашэнку;

(8) Віктар Ганчар, Анатоль Красоўскі і Юры Захаранка — кіраўнікі і прыхільнікі апазыцыі — зьніклі пры таямнічых абставінах;

(9) былыя беларускія дзяржаўныя служboўцы, у тым ліку чатыры супрацоўнікі праваахоўных органаў, выступілі з вартымі даверу заявамі і сьведчаньнямі наконт таго, што высокапастаўленыя чыноўнікі рэжыму Лукашэнкі мелі дачыненьне да забойства дзеячоў апазыцыі Юрыя Захаранкі, Віктара Ганчара, Анатоля Красоўскага, Зьмітра Завадзкага ды дзясяткаў іншых людзей;

(10) рэжым Лукашэнкі сыстэматычна цкуе і перасьледуе незалежныя сродкі масавай інфармацыі і актыўна душыць праявы свабоды слова і выказваньня;

(11) Зьміцер Завадзкі, апэратар расейскай грамадзкай тэлевізіі, вядомы сваімі крытычнымі рэпартажамі пра рэжым Лукашэнкі, зьнік пры таямнічых абставінах;

(12) рэжым Лукашэнкі выступае з нападкамі на Беларускую Аўтакефальную Праваслаўную Царкву, Рыма-Каталіцкую Царкву, эвангельскія цэрквы ды іншыя рэлігійныя меншасьці;

(13) Лукашэнка падтрымвае і актыўна праводзіць у жыцьцё ідэю аб'яднаньня Беларусі з Расеяй, распачаў у гэтай справе перамовы і 8 сьнежня 1999 году падпісаў беларуска-расейскую Саюзную Дамову, ня маючы на гэта неабходных канстытуцыйных паўнамоцтваў;

(14) беларуская апазыцыя асуджае гэтыя спробы і неаднаразова заклікала міжнародную супольнасьць «недвухсэнсоўна абвясьціць аб непрызнаньні любых міжнародных дамоваў, падпісаных Лукашэнкам»;

(15) Злучаныя Штаты, Эўрапейскі Зьвяз, Парляманцкая Асамблея НАТО, Парляманцкая Асамблея АБСЭ ды іншыя міжнародныя арганізацыі надалей прызнаюць Вярхоўны Савет XIII скліканьня законным парлямантам Беларусі;

(16) праведзеныя Лукашэнкам 15 кастрычніка 2000 году парляманцкія выбары супярэчылі закону і канстытуцыі;

(17) гэтыя выбары суправаджаліся грубымі парушэньнямі правоў чалавека з боку рэжыму, улучна з цкаваньнем, зьбіцьцём, арыштамі і зьняволеньнем апазыцыянэраў;

(18) гэтыя выбары былі праведзеныя пры адсутнасьці дэмакратычнага выбарчага заканадаўства;

(19) прэзыдэнцкія выбары верасьня 2001 году былі несправядлівыя ў самой сваёй аснове і адзначыліся істотнымі і злоснымі парушэньнямі з боку рэжыму Лукашэнкі, якія ўключалі ў сябе —

(A) цкаваньне, арышты і зьняволеньне лідэраў апазыцыі;

(B) адмову апазыцыйным кандыдатам у роўным і справядлівым доступе да сродкаў інфармацыі, пераважна кантраляваных дзяржавай;

(C) канфіскацыю абсталяваньня і маёмасьці незалежных няўрадавых арганізацыяў і друкарняў, цкаваньне іх кіраўнікоў і супрацоўнікаў;

(D) непразрыстасьць працэсу галасаваньня і падліку галасоў; і

(E) кампанію запалохваньня, скіраваную супраць актывістаў апазыцыі, мясцовых арганізацыяў назіраньня за выбарамі, апазыцыі і незалежных сродкаў масавай інфармацыі; кампанію паклёпу ў сродках масавай інфармацыі, скіраваную супраць міжнародных назіральнікаў;

(20) апошнія парлямэнцкія выбары ў Беларусі, прызнаныя міжнароднай супольнасьцю свабоднымі і справядлівымі, адбыліся ў 1995 годзе, у выніку чаго быў абраны Вярхоўны Савет XIII скліканьня, чыю дэмакратычна і канстытуцыйна атрыманую ўладу і паўнамоцтвы ўзурпаваў аўтарытарны рэжым Аляксандра Лукашэнкі.

РАЗЬДЗЕЛ 3. ДАПАМОГА Ў СПРЫЯНЬНІ ДЭМАКРАТЫІ І ГРАМАДЗЯНСКАЙ СУПОЛЬНАСЬЦІ Ў БЕЛАРУСІ

(a) МЭТЫ ДАПАМОГІ.— Дапамога, пра якую будзе йсьці гаворка ў гэтым разьдзеле, будзе выдзяляцца на тое, каб:

(1) Дапамагчы народу Беларусі адваяваць сваю свабоду і даць яму магчымасьць далучыцца да міжнароднай супольнасьці дэмакратычных дзяржаваў.

(2) Аднавіць і ўмацаваць у Беларусі інстытуты дэмакратычнага кіраваньня.

(3) Заахвоціць правядзеньне ў Беларусі свабодных і справядлівых прэзыдэнцкіх і парляманцкіх выбараў у адпаведнасьці зь міжнародна прынятымі стандартамі і пад наглядам міжнародна прызнаных назіральнікаў.

(4) Падтрымаць і ўзмацніць міжнародныя санкцыі супраць рэжыму Лукашэнкі ў Беларусі.

(b) УПАЎНАВАЖАНЬНЕ НА ВЫДЗЯЛЕНЬНЕ ДАПАМОГІ.— Для дасягненьня мэтаў, пералічаных у падразьдзеле (a), Прэзыдэнт упаўнаважваецца выдзяляць дапамогу ды іншыя формы падтрымкі на дзейнасьць, апісаную ў падразьдзеле (c) і перадусім для беларускіх палітычных партыяў і няўрадавых арганізацыяў у самой Беларусі.

(c) ДЗЕЙНАСЬЦЬ, НА ЯКУЮ ВЫДЗЯЛЯЕЦЦА ДАПАМОГА. — Дзейнасьць, на якую можа выдзяляцца згаданая ў падразьдзеле (b) дапамога, уключае ў сябе—

(1) дзейнасьць дэмакратычных сілаў, у тым ліку палітычных партыяў, скіраваную на пашырэньне дэмакратыі і абарону незалежнасьці і сувэрэнітэту Беларусі;

(2) пабудову дэмакратыі;

(3) радыё- і тэлевяшчаньне на Беларусь;

(4) разьвіцьцё і падтрымку няўрадавых арганізацыяў як у Беларусі, гэтак і ў эміграцыі, якія спрыяюць дэмакратыі і бароняць правы чалавека;

(5) разьвіцьцё незалежных сродкаў масавай інфармацыі, якія дзейнічаюць у Беларусі і за яе межамі і абапіраюцца на недзяржаўныя друкарні;

(6) міжнародны абмен і праграмы прафэсійнай падрыхтоўкі для кіраўнікоў і актывістаў дэмакратычных сілаў з мэтай удасканаленьня навыкаў, неабходных для разьвіцьця грамадзянскай супольнасьці;

(7) разьвіцьцё ўсіх элемэнтаў дэмакратычнага працэсу, у тым ліку арганізацыі палітыч-

Працяг на бачыне 7

# Акцыя ў Бэрліне

У нядзелю, 17 кастрычніка, ля брамы беларускай амбасады ў Бэрліне прайшла акцыя "За Беларусь! Не – зьменам Канстытуцыі!" У ёй удзельнічалі студэнты, якія вучацца ў бэрлінскіх унівэрсытэтах.

Удзельнікі акцыі правялі мітынг. Іхнюю пазыцыю адлюстроўвалі бел-чырвона-белыя сьцягі. Мінакі выказвалі цікаўнасьць, і студэнты актыўна тлумачылі жадаючым узяць удзел у галасаваньні й мясцовым жыхарам чаму зьмяняць канстытуцыю краіны кепска, і чаму моладзь у сваёй большасьці ня згодная з курсам Лукашэнкі.

Адная кабета зьдзіўлялася, як можна браць удзел у галасаваньні, калі няма ніякай інфармацыі аб праграмах кандыдатаў у дэпутаты, бо беларуская амбасада напярэдадні катэгарычна адмаўлялася даваць такую інфармацыю. Тлумачылі гэта так: "Гэта-ж агітацыя!" Але ня трэба блытаць агітацыю з інфармацыяй, якую супрацоўнікі амбасады абавязаныя па закону даводзіць да выбарцаў.

Адразу папаўдні падышла вялікая група былых беларускіх студэнтаў зачыненага Эўрапейскага гуманітарнага ўнівэрсытэту, а зараз студэнтаў унівэрсытэту "Віадрына" ў Франкфурце-на-Одэры. Як прагаласавалі гэтыя студэнты



здагадацца няцяжка, улічваючы лёс іхнай навучальнай установы ў Менску.

Трэба дадаць, што лік тых, хто прагаласаваў у амбасадзе быў вельмі вялікім. Па нашым падлікам усяго прагаласавала каля 500 чалавек. І гэта толькі ў Бэрліне. Гэтыя лічбы вельмі цяжка ўпісваюцца ў афіцыйныя 7000 "замежных беларусаў", якія, па інфармацыі МЗС, былі ўключаныя ў сьпісы для галасаваньня.

# Акцыі ў Эўропе супраць рэфэрэндуму

## Бэльгія

Беларусы Бэльгіі правялі 17 кастрычніка 2004 году дзьве акцыі ў сталіцы Эўразьвязу Бруксэлі.

Беларуска-Эўрапейскае Задзіночаньне (БЭЗ), якое ёсьць часткаю Згуртаваньня арганізацыяў беларускіх уцекачоў "Беларуская Ўнія", правяло пікет каля амбасады РБ.

У акцыі прынялі ўдзел некалькі дзесяткаў чалавек. Удзельнікі пікету могуць пацьвердзіць той факт, што з 10 да 12 гадзінаў (калі праходзіла мерапрыемства) прагаласавала толькі адная жанчына, якая распавяла, што і ў час галасаваньня ў амбасадзе праводзіцца нахабная агітацыя за прапанову А. Лукашэнкі працягнуць ягоныя паўнамоцтвы.

Пікет скончыўся гучным воклічам: "Служкам дыктатуры - ганьба!"

У другой палове дня адбылася акцыя, якую арганізаваў Беларускі Цэнтар. Вялікую працу ў яе падрыхтоўцы правяла В. Стужынская, якая ёсьць прадстаўніком Эўрапейскай кааліцыі "Свабодная Беларусь" у Бэльгіі.

## Галяндыя




18 кастрычніка ў галяндзкай Гаазе адбылася акцыя Зьвязу Беларусаў Галяндыі пры падтрымцы беларусаў, якія завіталі з Бэльгіі.

Мерапрыемства пачалося каля Міжнароднага трыбуналу, дзе актывісты двух партнэскіх арганізацыяў (у рамках "Беларускай Уніі") запатрабавалі адкрыць пэрсанальныя справы на Лукашэнку і ягоных памагатых.

Потым акцыя працягнулася каля Палацу Міру і скончылася каля беларускага консуляту.

Удзельнікі акцыі раздавалі чыноўнікам міжнародных структураў і мінакам тэксты рэзалюцыяў ПАРЭ па справе зьніклых і свабодзе прэсы ў Беларусі, кнігі "Мы хочам ведаць праўду" і ўлёткі з артыкулам уплывовага бэльгійскага часопісу "P-magazine" пра апошняга дыктатара Эўропы, дзе ён называецца "маленькім Гітлерам" і параўноўваецца з Мілошавічам і Гусэйнам.

Трэба адзначыць, што на акцыі былі й бралі інтэрв'ю супрацоўнікі нідэрляндзкай і нямецкай тэлекампаніяў.

## Нямеччына

17 кастрычніка сябры Згуртаваньня Беларусаў Нямеччыны, якое ёсьць часткаю "Беларускай Уніі", правялі ў баварскім горадзе Лансгут акцыю пратэсту. У акцыі ўзялі ўдзел каля дзесяці чалавек, што выказалі свой пратэст парушэньню правоў беларускіх грамадзянаў.

Нагадаем, што сябры ЗБН адмовіліся браць удзел у ганебным рэфэрэндуме і "парляманцкіх выбарах".

## Польшча

Каля 100 чалавек сабраліся каля беларускай амбасады ў Варшаве выказаць свой пратэст трэцяму тэрміну прэзыдэнцтва А. Лукашэнкі.

Напачатку акцыі адбыўся пэрформанс "Выбары ў Беларусі". Людзі, пераапранутыя ў маскі Лукашэнкі і скандальнага польскага палітыка Анджэя Лепера, праводзілі галасаваньне за працяг паўнамоцтваў Лукашэнкі. У чырвона-зялёную скрынку з надпісам "Галасуем на Так!" удзельнікі акцыі прымушаў укідваць бюлетэні з пытаньнем аб працягу паўнамоцтваў Лукашэнкі чалавек у вайсковым з плястыкавым аўтаматам. Варыянты адказаў на бюлетэні былі такія: Так, Натуральна так, Але-ж канешне.

Побач стаялі маладыя людзі, якія трымалі балёнікі з партэтам Лукашэнкі.

Праз некалькі хвілінаў з натоўпу выбег маладзён і выхапіў выбарчую скрыню з рук "Лукашэнкі" і вывярнуў на зямлю, узьняліся бел-чырвона-белыя сьцягі і транспаранты: "Лукашэнка 1994-2004 - Досыць!", "Лукашэнка ў жо..., Беларусь у Эўропу! Стоп Лукашэнка!" А балёнікі з выяваю Лукашэнкі былі прабітыя.




Моладзь пачала скандаваць: "Досыць Лукашэнкі! Жыве Беларусь! Луку пад трыбунал!"

Усю акцыю здымаў чалавек у цывільным з балкону амбасады. У сваю чаргу сярод натоўпу хадзіў чалавек з кінакамэрай з надпісам "КГБ".

У акцыі прынялі ўдзел: Зьвяз на карысьць дэмакратыі ў Беларусі, польскія маладзёвыя арганізацыі: "Млоде Центрум", "Млодзі Демократ", "Зяленыя", "ДЖЭФ".

Перад шматлікай прысутнай на акцыі прэсай была зачытаная супольная вышэй пералічаных арганізацыяў заява ў справе выбараў у Беларусі і асудженьня лукашэнкаўскага рэжыму.

## Францыя



Акцыя за дэмакратыю і правы чалавека прайшла 16 кастрычніка ля беларускай амбасады ў Парыжы. Яна была праведзеная арганізацыямі «Парыж-Менск» і "La Pech". Мэта – акцыі – выказаць пратэст супраць рэфэрэндуму 17 кастрычніка.

У акцыі таксама ўзялі ўдзел асацыяцыі Камітэт Бандажэўскага, Дзеці Чарнобыля, Гуманітарная місія школаў Францыі. Удзельнікі акцыі трымалі бел-чырвона-белыя сьцягі і плякаты з лёзунгамі «Дэмакратыя для Беларусі!», «Так – Беларусі ў Эўропе!»

## Чэхія

Акцыю пратэсту супроць недэмакратычных выбараў і рэфэрэндуму ў Беларусі ладзілі 17 кастрычніка й беларусы Чэхіі. У ёй прынялі ўдзел больш за паўсотні чалавек - гэта беларускія палітычныя ўцекачы, тыя беларусы, хто жыве і працуе ў Празе, а таксама сябры-чэхі.

І што цікава, што менавіта яны падрыхтавалі такі сымбалічны "падарунак" для Лукашэнкі - зрабіла гэта чэская секцыя "Міжнароднай амністыі" - яны падрыхтавалі такі 5-мэтровы скрутак калючага дроту са стужкаю, які хацелі перадаць прадстаўнікам беларускай амбасады. Зазванілі туды, але, нажаль, ніхто з амбасады ня выйшаў, і гэты "падарунак" давялося пакласьці каля ўваходу ў амбасаду.

На будынку амбасады вісела аб'ява пра тое, што там знаходзіцца выбарчы ўчастак, нумар ягоны пазначаны - 691. Дачасныя выбары, там напісана, пачаліся ў Празе 12 кастрычніка. За той час, колькі цягнулася акцыя, ніхто зь беларусаў не прыходзіў галасаваць. Удзельнікі акцыі трымалі мноства бел-чырвона-белых сьцягоў, нават маленькі хлопчык быў зь бел-чырвона-белым сьцяжком, сынок адной беларускай сям'і, а таксама пляка́ты з пратэстамі, напісаныя па-беларуску і па-чэску.




Беларусаў падтрымалі таксама сябры-украінцы.

Беларусы Прагі выказалі сваё нэгатыўнае стаўленьне да таго, што адбываецца ў Беларусі. Але выказалі й надзею, што гэты рэфэрэндум не прынясе перамогі Лукашэнку, нават калі гэта будзе так выглядаць.

## Швэцыя

18 кастрычніка Зьвяз Беларусаў Швэцыі, які ўваходзіць у Згуртаваньне арганізацыяў беларускіх палітычных уцекачоў "Беларуская Ўнія", правеў акцыю ў Стакгольме каля парляманту краіны.

У акцыі ўдзельнічалі 15 чалавек. Такім чынам, беларуская грамада выказала свой пратэст супраць жахлівай фальсыфікацыі вынікаў рэфэрэндуму.

Да пікетоўцаў далучыўся швэдзкі дэпутат ад Лібэральнай партыі Марцін Андрэасан, які ў той дзень вярнуўся зь Менску. "Тое, што я там бачыў, нельга назваць дэмакратычнымі выбарамі", - заявіў дэпутат.

*www.razam.org*

# Кірмаш у Швэцыі

З 23 па 26 жніўня ў швэдзкім горадзе Гётэборг адбыўся юбілейны 20-ты сусьветны кніжны кірмаш, які наведала 209.000 гасьцей. Сёлета ў фокусе падзеяў была брытанская літаратура. Беларусь чарговы раз пры дапамозе Швэдзкага Інстытуту прадстаўляла грамадзкая арганізацыя Vitryssland на чале з Марыяй Сёдэрбэрг. Наведнікі маглі агледзець апошнія навінкі беларускай літаратуры, пазнаёміцца з часопісамі ARCHE і Дзеяслоў.

На працягу ўсіх дзён фэсту гасьцям была прэзэнтаваная багатая праграма беларускіх сэмінараў. Швэдзкая паэтка беларускага паходжаньня Інга-Ліна Ліндквіст чытала нізку новых вершаў "Беларусь ў маім сэрцы". Лаўрэатка эўрапейскага конкурсу паэзіі ў Славеніі Вальжына Морт чытала ўласныя вершы і дала лекцыю, прысьвечаную творчасьці маладых беларускіх паэтаў пад назваю "Як карабель зь цёмнай гавані". На пытаньні, датычныя сучаснай беларускай літаратуры, адказвала паэтка Лана Радзівонава. Лектар швэдзкай мовы ў Менску Мортэн Франкбю падзяліўся сваімі ўражаньнямі ад жыцьця і працы ў Беларусі. Акушэрка і грамадзкая дзяячка Оса Гальбэрг распавяла пра працу беларускіх радзільных дамоў. Швэдзкія паэты Цыла Нау́ман, Арнэ Ёнсан, Ёван Ёбэрг чыталі вершы беларускіх паэтаў і апавядалі пра свае падарожжа праз Беларусь. Гісторыкі Андрэй Катлярчук і Мац Ларссон далі тры лекцыі, прысьвечыныя дзейнасьці вікінгаў на землях старажытнай Беларусі. Кіраўнік грамадзкай арганізацыі ROKS Ангела Бесонг прачытала лекцыю пра становішча з правамі беларускіх кабетаў.

Журналісты Тобіас Ліндваль і Мікалай Паседка падзяліліся ўласнымі меркаваньнямі наконт палітычнага становішча ў Беларусі. Аналітык буйнейшай газэты Dagens Nyheter Діса Гостад абмяркоўвала будучыя выбары ў беларускі парлямант.

Арганізатары кірмашу адзначылі рост зацікаўленасьці публікі да беларускіх сэмінараў.

***Андрэй КАТЛЯРЧУК***
***Гётэборг-Стакгольм***

# Беларусь за месяц

## «Элегантная перамога»

Паводле зьвестак Цэнтральнай выбарчай камісіі Рэспублікі Беларусь па выбарах і правядзеньні рэспубліканскіх рэфэрэндумаў, удзел у выбарах дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў і плебісцыце ўзялі 89,73% выбарцаў. За зьмену Канстытуцыі выказаліся 77,3%, унесеных у сьпісы для галасаваньня. Паводле "экзыт-полу", праведзенага Інстытутам Гэлапа "так" прэзыдэнту выказала 48,4% выбарцаў.

На Берасьцейшчыне ўдзел у галасаваньні ўзялі 88,9% выбарцаў, за ўнясеньне прапраўкі ў Канстытуцыі прагаласавалі 75,7% грамадзянаў, унесеных у сьпісы. У Віцебскай вобласьці — адпаведна 90,84 і 80,1, па Гомельскай — 94,01 і 83, па Гарадзенскай — 89,1 і 82,2, па Магілёўскай — 94,9 і 88,8, па Менскай — 90,4 і 75,5, па Менску — 81,76 і 61,3.

Калі ўзяць колькасьць тых, хто прагаласаваў «за» ад тых, хто браў удзел у галасаваньні, то на Берасьцейшчыне гэты паказчык склаў 85,2%, у Віцебскай — 88,2, у Гомельскай — 88,3, у Гарадзенскай — 92,3, у Магілёўскай — 93,6, у Менскай — 83,5, у Менску — 74,98.

Старшыня Цэнтрвыбаркаму Лідзія Ярмошына заявіла, што перамога Лукашэнкі — «элегантная перамога», і калі-б «рэфэрэндуму» не было, то яго-б было варта выдумаць, бо такія мерапрыемствы аб'ядноўваюць нацыю. Лукашэнка на прэс-канфэрэнцыі 18 кастрычніка таксама зазначыў, што ашаломнены такой перамогай. Відаць, падначаленыя перастараліся.

Тым часам і незалежныя назіральнікі і апазыцыйныя партыі заявілі пра масавыя парушэньні заканадаўства пры правядзеньні плебісцыту і выбараў і фальсыфікацыю вынікаў.

На датэрміновае галасаваньне — паводле афіцыйных зьвестак прагаласавалі 17,39%, а паводле незалежных назіральнікаў больш за 25% — прымусова заганялі студэнтаў, салдатаў, рабочых і г. д. Ды і багата народу сьвядома прагаласавала з 12 па 16 кастрычніка загадзя. Маўляў, выхадны дзень. Праўда, дзе-нідзе датэрміноваму галасаваньню супраціўляліся. Напрыклад, 12 студэнтаў факультэту філялёгіі Віцебскага дзяржаўнага ўнівэрсытэту напісалі адкрыты ліст дэкану факультэта, у якім заявілі, што галасаваць будуць так як лічаць за патрэбнае.

## Палата без апазыцыі

З 110 дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу ў першым туры парлямнцкіх выбараў 17 кастрычніка было выбрана 108 чалавек. Зь іх — 47 былі дэпутатамі Палаты прадстаўнікоў мінулага скліканьня. Пераабрана амаль усё кіраўніцтва ніжняй палаты: у тым ліку спікер і віцэ-сьпікер. Выбары не адбыліся толькі ў адным з акругоў Горадні. Сярод абраных — 31 жанчына. Такім чынам былі "выкананыя" ўсе "рэкамэндацыі" прэзыдэнта: каб у парлямэнце была трэціна жанчынаў, каб выбары прайшлі дзеля ашчаджэньня грошай у адзін тур, каб была пераабраная палова мінулых дэпутатаў

У парляманце 12 чалавек — сябры палітычных партыяў: восем — Камуністычнай партыі Беларусі, 3 — Аграрнай і адзін — старшыня Лібэральна-дэмакратычнай партыі Сяргей Гайдукевіч. Няма ніводнага прадстаўніка апазыцыі.

Як бачым, ня спраўдзіў сябе ні байкот, абвешчаны КХП — БНФ, ні выбарчая кампанія, бязьдарна праведзеная апазыцыяй.

## Акцыя 18 кастрычніка

Увечары 18 кастрычніка на Кастрычніцкай плошчы беларускай сталіцы адбылася акцыя апазыцыі, скіраваная супраць прызнаньня афіцыйных вынікаў выбараў і рэфэрэндуму. Яна была падрыхтаваная Эўрапейскай кааліцыяй "Свабодная Беларусь", куды ўваходзяць "Хартыя'97", "Беларуская сацыял-дэмакратычная партыя (Народная Грамада)", прадстаўнікі "Зубра" і "Маладога фронту".

Акцыя сабрала, паводле "Радыё Свабоды", каля пяці тысяч чалавек. Напачатку яе ўдзельнікі паспрабавалі прайсці да рэзыдэнцыі прэзыдэнта, але АМОН не дазволіў, потым да Цэнтравыбаркаму, разьмешчанага на Плошчы незалежнасьці – той-жа вынік. Вярнуліся на Кастрычніцкую плошчу, правялі мітынг і накіраваліся да будынка КДБ, патрабуючы вызваліць палітычных вязьняў Міхаіла Марыніча, Валера Леванеўскага і затрыманага на акцыі Яўгена Афнагеля. Да мітынгоўцаў выйшаў старшыня КДБ Леанід Ерын, які запрасіў некалькіх журналістаў і удзельнікаў акцыі ў свой кабінет. Паводле іх словаў, Ерын у найбліжэйшы час праясьніць сытуацыю з затрыманымі палітыкамі.

А дзявятай вечара ўдзельнікі акцыі разышліся.

## Памерлі пісьменьнік і навуковец

Народны пісьменьнік Беларусі Іван Шамякін памёр у ноч на 14 кастрычніка на 84-м годзе жыцьця. Яго пахавалі 15 кастрычніка на Ўсходніх могілках у Менску, а грамадзянская паніхіда ў Доме афіцэраў сабрала некалькі тысяч чалавек.

13 кастрычніка падчас знаходжаньня ў Берасьці памёр вядомы беларускі навуковец, доктар гістарычных навук Уладзімер Міхнюк. Уладзімер Міхнюк быў адным зь першым, хто адкрыў беларусам «рэпрэсаваную Беларусь». Ён друкаваў матар'ялы, што тычыліся арышту Алеся Дудара, Антона Лукцевіча, Браніслава Тарашкевіча, Кастуся Езавітава ды інш. Ён адзін з укладальнікаў зборніка «Слуцкі збройны чын». Міхнюку было толькі 57 гадоў.

## Праблемы «Рэгіянальнай газэты»

24 верасьня Міністэрства інфармацыі ў асобе міністра Уладзімера Русакевіча сваёй пастановаю прыпыніла на тры месяцы выданьне «Рэгіянальнай газэты» (regionnews.promedia.by), якая друкавалася накладам амаль 10 тыс. асобнікаў і распаўсюджвалася ў сямі раёнах беларускай Віленшчыны — Астравецкім, Ашмянскім, Смаргонскім, Валожынскім, Вялейскім, Маладэчанскім, Мядзелскім. Падставаю для такога рашэньня сталі два папярэджаньні, вынесеныя газэце. Маўляў, «Рэгіянальная» парушыла некалькі артыкулаў закону аб друку. Напрыклад, незарэгістраваны дадатак «Тэлетыдзень» распаўсюджваўся разам з газэтаю, газэта была заяўленая як масава-палітычная, а падпісаная як інфармацыйна-рэкламная ды распаўсюджвалася не па ўсёй Беларусі, а толькі ў сямі раёнах ды інш.

Але відавочна, што ўладам замінала незалежнае выданьне ў рэгіёне, зь якім афіцыйныя раёнкі і блізка не маглі канкураваць.

І нечакана было аднаўлена выданьне пэрыёдыка. 12 кастрычніка Мінінфармацыі паведаміла галоўнаму рэдактару Аляксандру Манцэвічу аб адмене санкцыяў. Манцэвіч бачыць прычыну ў тым, што вялікая колькасьць чытачоў зьвярталася ў Мінінфармацыі, тэлефанавала ці прыязджала асабіста. Нягледзячы на простой у паўмесяца, газэта панесла велізарныя страты. Пошта была вымушаная выплаціць падпісчыкам 10 млн. рублёў, ды сама газэта страціла 20 адсоткаў накладу. Але будзем верыць, што газэта выстаіць.

## Вета для чыноўнікаў

27 верасьня Еўразьвяз і ЗША забаранілі ўезд на сваю тэрыторыю чатыром беларускім чыноўнікам, якія падазраюцца ва ўдзеле ў выкраданьнях трох беларускіх грамадзкіх дзеячоў і аднаго журналіста — Віктара Ганчара, Анатоля Красоўскага, Юрыя Захаранкі й Зьміцера Завадзкага. Гэтая забарона тычыцца міністра ўнутраных справаў Уладзімера Навумава, генэральнага пракурора Віктара Шэймана, былога міністра ўнутраных справаў, а цяпер міністра спорту і турызму Юрыя Сівакова, а таксама камандзіра брыгады спэцыяльнага прызначэньня Дзьмітрыя Паўлічэнкі.

На паседжаньні Савета бясьпекі 28 верасьня Лукашэнка рэзка адрэагаваў на пастанову: «Я сваіх генэралаў ня здам», дадаўшы, што тры гады таму Дзьмітры Паўлічэнка асабіста абараняў ягоную рэзыдэнцыю ад танкаў, што рухаліся на яе. Ніхто, праўда, ня можа прыгадаць, калі гэта адбылося і што гэта былі за танкі.

Таксама прэзыдэнт заявіў, што паводле ягоных зьвестак, на Захадзе рыхтуюць пляны ягонага фізычнага зьнішчэньня.

Рэакцыя Захаду таксама доўга не прымусіла чакаць. Спэцыяльны дакладчык Парлямэнцкай асамблеі Рады Эўропы па Беларусі Хрыстас Пургурыдэс заявіў, што «Захад — гэта не Беларусь. Тут людзей не забіваюць і яны не зьнікаюць. На Захадзе ёсьць толькі адзін спосаб пазбавіць кагосьці улады — церaз дэмакратычны працэс».

Таксама вельмі рэзкім быў камэнтар Крысьціны Галяк — прэсавага сакратара вярхоўнага прадстаўніка Эўразьвязу па вонкавай палітыцы і бясьпецы Хаўера Саляны: «Да таго часу пакуль сытуацыя са зьніклымі не праясьніцца — а адзіным спосабам дабіцца гэтага ёсьць правядзеньне незалежнага расьледаваньня — тыя чыноўнікі, у дачыненьні да якіх мы зьбіраемся ўвесьці санкцыі, будуць знаходзіцца пад гэтымі санкцыямі, пакуль гэта Лукашэнку ці не».

## Павышэньне заробку

15 кастрычніка А. Лукашэнка падпісаў указ аб усталяваньні памераў мінімальнай заробнай платы. «У мэтах узмацненьня сацыяльнай абароны работнікаў Беларусі... усталяваць мінімальны месячны заробак на лістапад — сьнежань у памеры 128.390 рублёў (паводле курсу Нацбанку на 17 кастрычніка — 59 даляраў ЗША), пагадзінны — 750 рублёў (34,5 цэнтаў).

*Уласны карэспандэнт*

## Жорсткая расправа

Несанкцыянаваная апазыцыйная акцыя супраць фальсыфікацыяў вынікаў выбараў і рэфэрэндуму, якая адбылася ў Менску 19 кастрычніка скончылася шматлікімі затрыманьнямі.

Амонаўцы жорстка зьбілі ўдзельнікаў, ёсьць шмат затрыманых. Распавядае адзін з затрыманых Аляксандр Валчанін з Жодзіна: "Мы былі ў Менску на Кастрычніцкай плошчы. АМОН нас усіх зьбіў. Вельмі моцна зьбівалі людзей. Зараз я аўтобусе. Нас у аўтобусах вязуць у невядомым кірунку. Людзей было шмат, і амаль усіх зьбілі. І мы ішлі па тратуары. Не перашкаджалі машынам. Ішлі выказаць сваё "не" гэтаму рэжыму. Зьнянацку перад намі зьявіўся ланцуг амонаўцаў. Яны сталі ўсіх, жанчын, дзяцей зьбіваць. Білі нагамі. Шмат людзей затрыманыя. Напхалі аўтобусаў дзесяць можа. У кожным аўтобусе людзей – немагчыма дыхаць."

Паводле іншых дадзеных, былі затрыманыя каля 50 чалавек.

Паводле інфармацыі, якую атрымалі ад удзельнікаў акцыі, старшыню АГП Анатоля Лябедзьку і старшыню "Народнай Грамады" Міколу Статкевіча група зь 5-6 супрацоўнікаў міліцыі ў скураных куртках акружыла ў памяшканьні рэстарацыі "Патыё-піца" і зьбівала дубінкамі. Амонаўцы таксама атакавалі апэратара НТВ Канстанціна Марозава і зьбілі яго. Журналіст быў увесь у крыві, камэра – пашкоджаная. Таксама быў зьбіты журналіст тэлеканалу RenTV і фотакарэспандэнт "Associated Press" Сяргей Грыц. Затрыманых адвезьлі ў Ленінскі РАУС. А. Лябедзьку выклікалі хуткую дапамогу.

А 8-й гадзіне вечара на Кастрычніцкім пляцу заставалася каля 100 чалавек, якія сьпявалі песьню "Пагоня" перад тым, як разысьціся.

*Радыё Свабода*

## Настаўнікам школаў у Глыбокім і ваколіцах

Я, Кастусь Акула, што нарадзіўся на Глыбоччыне, але ад 1947 году жыву ў Канадзе.

Сёньня ў жнівені даведаўся пра школьны літаратурны музэй у Глыбокім. Атрымаў запрашэньне ўдзельнічаць у помачы музэю мець беларускую літаратуру. Запрасілі мяне пісьменьніца і паэтэса Сутула Галіна і настаўніца Тамара Шылёнак.

Вітаю Дзень настаўніка, што будзе сёлета ў Глыбокім. Настаўнікам жадаю ўсім добрага здароўя, вытрывальасьці й вялікіх посьпехаў у навучаньні школьнікаў.

Некалі я працаваў настаўнікаў у школе ў Порплішчы й добра ацэньваю пільнасьць беларускіх і іншых дзяцей у здабыцьці ведаў у школьных прадметах, асабліва-ж у роднай беларускай мове.

Некалі Язэп Лёсік, выдатны аўтар падручніка беларускай мовы, тлумачыў: "Мова — гэта душа чалавека, яго краса і аздоба.

Выдатны наш пісьменьнік Зьмітрок Бядуля, сам гэбрай, клясык беларускай літаратуры, шанаваў нашую мову. Вось адзін з ягоных запаветаў пра беларускую мову: "Богу маліцца трэба толькі па-свойму; тады вы толькі добра зразумееце, што кажаце, дзяцей трэба вучыць толькі ў роднай мове, тады навука прыняссе шмат карысьці.

Культура кожнай нацыі па-асобску прыносіць карысьць агульначалавечай культуры – усяму сьвету. Таксама і мы, беларусы, прыняцём карысьць усім людзям на зямлі толькі тады, калі яны ў нас угледзяць нашае асобнае, вытворанае намі, а не пазычанае ў палякаў ці маскалёў. Фундамэнтам гэтага ёсьць толькі родная мова.

Кожны з нас павінен памятаць і ведаць, што нашая беларуская мова ня горшая за іншыя мовы, толькі ў нашай мове было наймысьля забаронена пісаць і друкаваць кнігі дзеля таго, каб мы аставаліся цёмнымі людзьмі, і каб былі парабкамі чужых, болей разумных людзей. Ведайце, што некалькі соткаў гадоў таму ў нашай мове пісаліся законы ў гэтым краі і друкаваліся розныя сьвяточныя і сьвецкія кнігі."

Я прашу школьнікаў і настаўнікаў у маім родным горадзе Глыбокім зьвярнуць асаблівую ўвагу на навуку беларускай мовы, цяпер дзяржаўнай у Рэспубліцы Беларусь. Наша галоўнае заданьне: абараняць і пашыраць у школах і наагул усюды нашую слаўную, прыгожую, мілую, мэлядыйную, блізкую сэрцаў усіх нас родную мову. З Богам.

*Кастусь АКУЛА*

# Радэк СІКОРСКІ пра Акт аб дэмакратыі ў Беларусі

"Значэньне Акту экстраардынарнае. Ён называе імёны і сынкранізуе з рэальнасьцю тое, што мы выступаем за дэмакратыю ня толькі ў арабскім сьвеце, але паўсюдна."



*Радэк СІКОРСКІ – выканаўчы дырэктар ініцыятывы Новая Атлянтыка і дасьледчык у American Enterprise Institute. Ён колішні палітычны ўцякач з Польшчы, які атрымаў адукацыю ў Вялікабрытаніі, працаваў журналістам, намесьнікам міністра абароны, а потым намесьнікам міністра замежных справаў Польшчы, цяпер жыве і працуе ў ЗША.*

З Радэкам Сікорскім гутарыла **Алеся СЁМУХА.**

*Як вы ацэньваеце важнасьць прыняцьця Акту аб дэмакратыі ў Беларусі ў дачыненьні да рэжыму Лукашэнкі, разьвіцьця дэмакратыі і беларуска-амэрыканскіх стасункаў?*

(Радэк Сікорскі): Я думаю важнасьць гэтага Акту сягае нашмат далей. Мы тут маем справу ня проста з дыктатурай недзе, а з апошняй дыктатурай у Эўропе, на самых межах з Эўразьвязам і Расеяй. І што найболыш турбуе, дык тое, што Беларусь выкарыстоўваецца як лябараторыя для палітычных мэтадаў і інстытуцыйных дзеяньняў, якія праз некалькі гадоў патрапяць у Расею, якая, вядома, нашмат большая і важная краіна. Лукашэнка раней выпрабаваў тое, што прэзыдэнт Пуцін зараз спрабуе рабіць – адкінуць дэмакратычнае абраньне губэрнатараў, незалежнасьць сродкаў інфармацыі, акадэмічных істытуцыяў і г. д. І хіба найбольш важнае – выкарыстаньне эскадронаў сьмерці. Лукашэнка карыстаўся імі для пазбаўленьня ад сваіх палітычных апанэнтаў, а прэзыдэнт Пуцін выкарыстоўвае іх для забойства чачэнскіх лідэраў і падазраваных у тэрарызме. Праблема тут у тым, што калі такія эскадроны створаныя, пасьля ад іх цяжка пазбавіцца, яны растуць, а не зьнікаюць і шукаюць новых ахвяраў. Так што я думаю значэньне Акту экстраардынарнае. Ён называе імёны, і сынкранізуе з рэальнасьцю тое, што мы выступаем за дэмакратыю ня толькі ў арабскім сьвеце, але паўсюдна. Раней мы былі адкрытыя да абвінавачваньняў у падвоеных стандартах, калі мы карысталіся рэсурсамі нават і ваеннымі, каб зьнішчыць дыктатуру ў адной краіне і замоўчвалі сытуацыю ў Расеі й Беларусі. Я таксама спадзяюся, што гэты Акт пасароміць Эўразьвяз, каб рабіць болей. 10 мільёнаў людзей – сябраў Эўразьвязу, жывуць на мяжы зь Беларусьсю, а Эўразьвяз зрабіў меней за Амэрыку.

*(Алеся Сёмуха): Ці дапаможа прыняцьцё Акту зьмяніць палітычныя прыярытэты Амэрыкі, ці гэта больш бяззубая сымболіка?*

(Радэк Сікорскі): Акт зможа прынесьці зьмены, калі палітычная воля будзе падмацаваная рэсурсамі. Я згодны, што адміністрацыя мусіць даць гэтаму акту "зубы". Таму што мы мусім выкарыстоўваць найлепшыя прыклады пашырэньня дэмакратыі й правоў чалавека, якія былі пасьпяхова выкарыстаныя падчас канфрантацыі з Савецкім Саюзам на іншыя дактатуры, ці то ў Беларусі, Іране, Бірме ці іншых месцах.

Я памятаю сваё жыцьцё пад камунізмам, у Польшчы, калі мы былі аддзеленыя ад вольнага сьвету, і я памятаю якую важкасьць мелі такія на першы погляд малаістотныя жэсты. Кожны паляк майго пакаленьня памятае сьвечку, якую прэзыдэнт Рэйган запаліў у Белым Доме ў сьнежні 1981 году, пасьля таго, як Ярузэльскі ўвёў вайсковае становішча і арыштаваў тысячы актывістаў. Гэтыя акты салідарнасьці з прыгнечанымі народамі нам могуць здавацца малаважнымі, але яны вельмі важныя для людзей, якія інакш думалі-б, што яны забытыя.

*(Алеся Сёмуха): Чаму пасьля доўгага ляжаньня ў Кангрэсе Акт раптам быў вельмі хутка прыняты?*

(Радэк Сікорскі): Я думаю, што ў апошнія месяцы людзі сталі лепш разумець, што справы ў Расеі ідуць не на карысьць дэмакратычных працэсаў. І калі-б Расея зараз стала дыктатурай і паспрабавала адбудаваць сваю імпэрыю, тады лёс такіх краінаў як Беларусь, Украіна, Малдова, Грузія быў-бы пераломны. Я думаю мы мусім прадэманстраваць салідарнасьць і прадэманстраваць усім, што рэстаўрацыя расейскай імпэрыі ня будзе дапушчаная, што мы сочым за падзеямі і будзем супрацоўнічаць з тымі, хто хоча незалежнасьці й дэмакратыі ў гэтых краінах.

*(Алеся Сёмуха): Прыняцьцё Акту – гэта рэакцыя Кангрэсу на беспасьпяховую палітыку Дзяржэпартаманту. Нядаўні артыкул у The Wall Street Journal пісаў пра тое, што адміністрацыя Буша зьвяртае недастатковa ўвагі на Беларусь і Украіну і зашмат увагі на Расею. Калі Буш застанецца прэзыдэнтам на другі тэрмін, ці будзе ягонае зьнешнепалітычнае ведамства мяняць падыходы і забясьпечыць Акт сродкамі, ці палітыка застанецца ранейшая?*

(Радэк Сікорскі): Нават калі Буш застанецца пры ўладзе, гэта ня значыць, што Дзяржсакратар застанецца той самы. Я не ведаю, хто будзе кіраваць амэрыканскай зьнешняй палітыкай. Але я ведаю, што гэта ў жыцьцёвых інтарэсах Амэрыкі й Эўропы, каб тыя краіны, якія вярнулі сабе незалежнасьць пасьля развалу СССР, утрымалі сваю незалежнасьць. Мы таксама вінныя Беларусі і Украіне за той факт, што яны дабраахвотна пазбыліся ядзернай зброі і заслугоўваюць гарантый бясьпекі сваёй незалежнасьці. Але я пагаджаюся, адміністрацыя застаецца пасыўнай і ня толькі ў Беларусі, але і ва ўсёй Эўропе.

Я спадзяюся, што Акт дапаможа адміністрацыі зьмяніць прыярытэты. Бальшыня прэзыдэнтаў пачынае з таго, што спрабуе усталяваць кантакт з Расеяй, быў там Сталін, Гарбачоў ці Пуцін, і потым яны прыходзяць да разуменьня, што яны могуць паразумецца толькі з тымі, хто спрабуюць быць дэмакратамі, таму што аўтакратычная Расея непазьбежна паспрабуе рабіць тое, што не адпавядае нашым інтарэсам. І калі пуцінская Расей спрабуе быць саюзьнікам ЗША ў барацьбе з тэрарызмам, але, на самрэч, вядзе гэнацыдную вайну ў Чачні, дык гэтым Расея робіць вайну з тэрарызмам больш складанай. Таму што гэта пераконвае памяркоўных мусульманаў у тым, што ўвесь сьвет супроць іх. Калі Буш гаварыў пра пуцінскую Расею, як пра краіну, у якой дэмакратыя і законнасьць квітнеюць, ён гаварыў няпраўду і паспрыяў зьмяншэньню даверу да ЗША ў вачох усіх, каго закранае расейская палітыка.

*(Алеся Сёмуха): Ці вы лічыце, што для ЗША сувязі рэжыму Лукашэнкі з адмываньнем грошай і продажам зброі больш важкія, каб узьняць прыярытэтнасьць Беларусі, чым парушэньні правоў чалавека і нават палітычныя зьнішчэньні?*

(Радэк Сікорскі): Я падазраю, што гэта так, бо ЗША факусуюцца на нечым адным у пэўны адрэзак часу. Цяперашні фокус на вайне з тэрарызмам. І таму замяшанасьць Лукашэнкі ў вайну з тэрарызмам мае зараз большую важкасьць, чым забойствы яго палітычных апанэнтаў. Але гэта добра. Гэта значыць, што яго злавілі, і што мы можам нешта зрабіць, каб утаймаваць гэтыя рэжымы-ізгоі.

# "Рочніца "Бужы" в Бялымстоку"

Пад такім загалоўкам у польскай лёнданскай газэце "Тыдзень Польскі" (5 верасьня 2004 году) быў зьмешчаны артыкул Крыстыны Асіповіч, прысьвечаны 60-й гадавіне выступленьня Арміі Краёвай (АК) летам 1944 году супраць немцаў на Ўсходнім фронце. Назоў гэтай акцыі "Бужа" альбо Бура, і мела яна на мэце весьці барацьбу ня толькі па тылах немцаў, але і супраць Чырвонай Арміі за аднаўленне Польшчы ў межах 1939 году.

Напачатку вайны акрамя Арміі Краёвай была створаная ў Варшаве ў жніўні 1941 году падпольная дывэрсыйная арганізацыя "Вахляж" – Веер, якая мела праводзіць на "крэсах всходніх" былой Польшчы сабатаж ад Балтыйскага да Чорнага мораў ды адначасова палітыку вяртаньня гэтых земляў да Польшчы. Сваю дзейнасьць "Вяхляж" пачаў у верасьні 1941 году.

Як бачым, гэта была вялікая прастора, на якой пражывала ня так шмат палякаў, але былі пераважна адукаваныя людзі патрыёты. Аднак арганізацыя "Вахляж" не праявіла свае актыўнасьці. Яна, як і АК, не магла сягаць далей як за межы былой Польшчы 1939 году.

На сваёй тэрыторыі "Вахляж" і АК не праводзілі дывэрсыяў супраць немцаў, бо за гэта найболыш адказвала перад немцамі цывільнае насельніцтва. Таму "Вахляж" выбраў Беларусь, як найбольш прыдатную прастору для свае дзейнасьці, за якую пакараньне прыходзілася несьці беларусам.

Аднак людзі "Вахляжа" не былі добра падрыхтаваныя для такой дзейнасьці. Яны паходзілі з карэннай Польшчы, школіліся на дывэрсантаў у Англіі, адкуль самалёты скідалі іх на парашутах у Польшчы, а адтуль кіраўніцтва "Вахляжа" пасылала іх на ўсход. Людзі гэтыя ня ведалі мовы народаў на "крэсах" і гэтым выдавалі сябе. Ды што праўда, кіраўнікі "Вахляжа" не былі сумленныя, яны выстаўлялі фальшывыя рапарты аб сваёй дзейнасьці, якой не было, і за гэта атрымлівалі грошы. Таму "Вахляж" быў распушчаны ў лютым 1943 году, а ягоныя людзі, якіх называлі "ціхацёмнымі", і якія былі вышкаленымі дывэрсантамі, былі разасланыя па аддзелах АК.

Армія Краёва мела свае аддзелы ў Беларусі, і яе заданьнем было ліквідаваць беларускую дзейнасьць і яе інтэлігенцыю, каб пасьля вайны лягчэй было палякам устанавіць сваю ўладу ў Беларусі.

Як узгадвалася, заданьнем "Бужы" было весьці вайну па тылах немецкай арміі, якая адступала летам 1944 году. Але ня ўсе акаўцы выступалі супраць немцаў, шмат хто зь іх супрацоўнічаў зь немцамі да канца вайны. Некаторыя камандзіры АК былі ў змове зь немцамі, бралі ад іх зброю, амуніцыю і ваявалі супраць савецкіх партызанаў, што выглядала на канфрантацыю з Чырвонай Арміяй. Заданьнем АК, як "факт дакананы", было ўстанавіць сваю ўладу пасьля адступленьня немцаў з "крэсаў усходніх".

Ініцыятарамі такога пляну былі генэрал Сікорскі ў Лёндане і кіраўнік АК Равэцкі ("Грот") у Варшаве. Сікорскі пісаў Равэцкаму:

"Мы павінны апярэдзіць расейцаў і стварыць "факты дакананыя" праз паўстаньне ў краі й пераняць вайсковую і адміністратыўную ўладу. Савецкае войска павінна трактавацца як саюзнае, а пасьля кожнага акту неляяльнасьці зь іхняго боку дамагацца англасаксонскай інтэрвэнцыі".

Такою дарогаю "фактаў дакананых" "Бужа" мела зрабіць польскі ўрад у Лёндане гаспадаром "крэсаў усходніх", а пасьля і Польшчы. Аднак такі плян аказаўся нерэальным і немагчымым да выкананьня. Усё-ж, каб падмацаваць дзейнасьць АК на "крэсах", як другі "факт дакананы", выбухнула паўстаньне ў Варшаве 1 жніўня 1944 году.

У гэты час Чырвоная Армія сьведама затрымалася перад Віслаю і дапамогі паўстанцам не аказала, бо паўстаньне было выклікана польскім эміграцыйным урадам у Лёндане, які варожа ставіўся да камуністаў. Такім чынам Варшаўскае паўстаньне было разгромленае немцамі, якія зруйнавалі Варшаву, а палякі панесьлі вялікія страты ў людзях. Пасьля Чырвоная Армія заняла Варшаву і пасадзіла там камуністычны ўрад.

Але гэтым ня быў пакланы канец змаганьню АК у Заходняй Беларусі. Акаўцы мсьціліся ня толькі на мясцовай савецкай адміністрацыі, але і на звычайных беларусах. Была гэта доўгая барацьба, якая цягнулася да 1953 году. Тады рэшта акаўцаў перайшла зь Беларусі на Беласточчыну пад Польшчаю і там праводзіла сваю злачынную працу сярод мірных беларусаў, мардуючы іх без дай прычыны толькі таму, што яны беларусы й праваслаўныя.

Нельга сказаць, каб беларусы ды іншыя нацыянальныя меншасьці ў міжваеннай Польшчы цешыліся нацыянальнай свабодаю. Польшча, падпісваючы Вэрсальскую дамову ў 1919 годзе, забавязалася даць свабоду нацыянальным меншасьцям у сваёй дзяржаве. Таксама на канфэрэнцыі ў Рызе ў 1920 годзе, калі была праведзеная мяжа, якая дзяліла Беларусь і Украіну, палякі забавязаліся даць нацыянальную свабоду гэтым народам, але яе ніколі не далі. Савецкі ўрад нагадваў пра гэтыя забавязваньні, але польскі ўрад не зьвяртаў увагі. Таму нацыянальныя меншасьці Польшчы ад 1920 да 1930 году выслалі ў Лігу

**Працяг на бачыне 5**



# Весткі й Паведамленьні

нью ёркаўскага аддзелу Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня

Viestki j Paviedamlenni

Belarusan American Association, Inc.

166-34 Gothic Drive, Jamaica, N.Y. 11432 Сусьветнае сеціва: www.baza-belarus.org №11 (466)

## Кастрычніцкі сход аддзелу БАЗА

У суботу 9-га кастрычніка адбыўся чарговы сход нью ёрскага аддзелу БАЗА. Напачатку сходу старшыня аддзелу сп. Віталь Зайка паведаміў пра галаўнейшыя падзеі за апошні месяц, зьвязаныя з Беларусьсю. Гэта — падрыхтоўка да выбараў у Палату прадстаўнікоў і да рэфэрэндуму аб пажыцьцёвым прэзыдэнцтве Лукашэнкі, і прыняцьце Акту аб Дэмакратыі ў Беларусі Кангрэсам ЗША.

Затым з сваім аналізам падзеяў у Беларусі выступіў старшыня БНФ сп. Зянон Пазьняк. Гаворачы аб маючых адбыцца 17 кастрычніка выбарах і рэфэрэндуме ў Беларусі, прамоўца адзначаў, што непрыняцьце байкоту, прапанаванае КХП БНФ і ўдзел у выбарах ёсьць відавочнаю памылкаю большасьці апазыцыі.

“Ужо цяпер відаць, што рэжым цалкам задзейнічаў усе дзяржаўныя рэсурсы, і ўсяляк перашкаджае нават той скрайне абмежаванай агітацыі кандыдатаў апазыцыі, якая была дазволеная па тэндэнцыйным афіцыйным законе аб выбарах. Калі мы галасуем супраць Лукашэнкі, а галасы падлічвае вертыкаль Лукашэнкі — ці можна перамагчы ў такіх умовах?” Шалёная агітацыя, кантрактная сыстэма найму на працу (новы прыгон), рэпрэсіі па месцы працы – усё працуе на перамогу рэжыму. Праз адмаўленьне ад байкоту апазыцыя зрабіла сябе пешкаю ў гульні дыктатара. Фізычны ўдзел апазыцыі будзе скарыстаны рэжымам дзеля легітымізацыі загадзя прадказальнага выніку — падтасаваньняў і перакручваньня сьпісаў і выбарчых бюлетэняў на сваю карысьць.

Рэжым зразумеў пагрозу, якую тоіць байкот выбараў. Усе заклікі да байкоту, нераўнуючы з кожнымі іншымі заклікамі й лёзунгамі апазыцыі, вельмі апэратыўна і брутальна перасьледуюцца ўладамі.

Таму ў такой сытуацыі патрэбны рашучы, сьмелы крок. Трэба, каб кожны кандыдат выйшаў з гэтай выбарчай кампаніі. Неабходныя заявы ў Вярхоўны суд аб патрабаваньні разгляду рэфэрэндуму Канстытуцыйным судом. Апазыцыянэры заяўляюць, што будуць браць удзел толькі ў выбарах, але не ў рэфэрэндуме. Між тым сьпісы адзіныя на абодва галасаваньні. Таму, прыйшоўшы на выбары, кожны робіцца ўдзельнікам-статыстам незаконнага рэфэрэндуму. Тое-ж з назіральнікамі з Эўразьвязу. Нельга, як яны заяўляюць, назіраць “толькі за выбарамі”, гэта абсурд. Прычым нават у такім выпадку рэжым не падпусьціць іх да скрыняў галасаваньня і да падліку галасоў. Гэта таксама статысты ў лукашэнкавым сцэнары. Масавая адмова ад балятаваньня — адзіны спосаб хоць неяк выправіць сытуацыю і перашкодзіць плянам рэжыму. Нажаль, гэты варыянт наўрад ці будзе прыняты недальнабачнымі палітыкамі апазыцыі.

Напрыканцы выступу сп. Пазьняк адзначыў: “Але надзея жыве. Нічога фатальнага няма. І выбары, і вынікі “рэфэрэндуму” ня будуць прызнаныя сусьветнай супольнасьцю. Кропля за кропляю, дзеяньні супраць рэжыму будуць рабіць сваю працу. Злучаныя Штаты зацікаўленыя у аднаўленьні дэмакратыі ў Беларусі, аб чым сьведчыць прыняцьце Акту аб Дэмакратыі ў Беларусі. Туды не былі ўключаныя прапановы аб “пасярэдніцтве” Расеі ва ўсталяваньні дэмакратыі ў Беларусі, і шэраг іншых пунктаў, супраць якіх мы выступалі, а нашыя пункты былі ўключаныя.

Сусьветная супольнасьць надае ўсё больш увагі падзеям у Беларусі. Гэта добры знак таго, што неўзабаве непадзельнаму панаваньню дыктатуры ў Беларусі будзе пакладзены канец”.

Затым у разьдзеле «Рознае» прагучэлі аб’явы й паведамленьні, у прыватнасьці аб маючым адбыцца на наступным сходзе канцэрце Сержука Сокалава-Воюша.

**Віталь ЗАЙКА**

## Беларускі фэстываль

У нядзелю 26-га верасьня пры Саборы Сьв. Кірылы Тураўскага ў Брукліне адбыўся Беларускі фэстываль, які быў прынагоджаны да вялікай фэстывальнай імпрэзы акругі Борум Гіл. Пасьля набажэнства ў Саборы парафіяне і госьці фэстывалю маглі пакаштаваць дранікаў ды іншых беларускіх страваў, прыгатаваных сястрыцтвам. Затым адбыўся канцэрт, на якім выступілі Ліда Кано, Рыма Пракопчык і Раіса Пакроўная якія выступалі з рэпэртуарам беларускіх і расейскіх сьпеваў.

З чытаньнем сваіх вершаў выступіў сп. Уладзімер Гуткоўскі, які таксама прэзэнтаваў сваю толькі што выйшаўшую кнігу і відэафільм.

Затым зь беларускаю праграмаю выступілі сьпевакі Валянціна Пархоменка і Алесь Казак. Сьпевы былі горача сустрэтыя прысутнымі. На вуліцы ля Сабору з яткі прадаваліся сп-вам Вашкевічаў беларускія нацыянальныя стравы, якія карысталіся папулярнасьцю ў публікі, што прыйшла на фэстываль акругі на закрыта для аўтаў Атлянтык Авэню.

**Віталь ЗАЙКА**

## Наступны сход

нью ёркаўскага аддзелу БАЗА адбудзецца 13 лістапада 2004 г. ў залі Фундацыі імя П. Крэчэўскага па адрасу:

**166-34 GOTHIC DR., JAMAICA**

Даезд цягніком падземкі F да прыпынку *169th St.* Прайсьці потым ад станцыі два блёкі на поўнач да скрыжаваньня *167 Street* і *Gothic Krive*, дзе на іх скрыжаваньні знаходзіцца будынак Фундацыі.

Даезд аўтам з Брукліну і Мангэтану па *Grand Central Parkway* да зьезду *Parsons Blvd*, тады па сэрвіс роўд да *168 Street* і па ёй зьвярнуць управа каля будынку школы, на *Gothic Krive* зьвярнуць зноў направа. На скрыжаваньні *Gothic Krive* і *167 Street* стаіць будынак Фундацыі, які можна лёгка казнаць па бел-чырвона-белым сьцягу ля дзьвярэй.

Запрашаем сяброў аддзелу і ўсіх зацікаўленых.

### Уплаты ў нью ёркаўскі аддзел БАЗА:

**Ахвяраваньні й складкі:**

| | |
|---|---|
| А. Дубавец ...........30 | Т. Тулейка ...........30 |
| В. Мароз .............30 | |
| Т. Смольская ........30 | |

**Шчыры дзякуй!**

**Уплаты ў аддзел дасылайце скарбніку на адрас:**

*Valeri Dvornik*
*172 Millspring Rd.*
*Manhasset, N.Y. 11030*

**Чэкі выпісвайце на** *Belarusan American Association.*

## “Рочніца в Бялымстоку

*Працяг з бачыны 4*

Нацыяў 155 наракань
няў на польскі ўрад. Але і гэтыя скаргі не зрабілі ніякога ўплыву на польскі ўрад, хоць паказалі Польшчу ў вачох сьвету як дыктатарскую дзяржаву.

Таму нічога дзіўнага, што падчас вайны Польшчы зь Нямеччынай у 1939 годзе пад прэтэкстам абароны сваіх братоў беларусаў і ўкраінцаў Чырвоная Армія 17 і 18 верасьня заняла Заходнюю Беларусь і Заходнюю Ўкраіну. Былі гэта трагічныя наступствы палітыкі польскага ўраду, які прыгнятаў нацыянальныя меншасьці, каб зрабіць іх палякамі дзеля сваёй старой ідэі вялікай “моцарствовэй Польскі”. Пілсудзкі аднойчы сказаў, што Польшча будзе вялікая альбо зусім ня будзе.

Прывядзём тут урывак з “Справаздачы кур’ера Міністэрства Ўнутраных Справаў аб сытуацыі ў акупаванай Польшчы ў жніўні 1944 году”:

“З болем трэба сьцьвярджаць, што тых некалькі сотняў людзей, якім былі дадзеныя важнейшыя становішчы ў вызвольнай працы, нічога не навучыліся за пяць цяжкіх і трагічных гадоў, што не зрабілі ў іх душах ніякага пераломy, як можна было спадзявацца ў верасьні 1939 году і чаго можна было ад іх дамагацца. Не змаглі нават пад акупацыяй вылезьці з балота сваіх памылак і заганаў. Узьняцца крыху вышэй і зьвысока больш ясна глянуць на сьвет, на Польшчу, на сваю працу. Усё, нажаль, засталося ў гэтых паноў па-старому, нічога не зьмянілася да лепшага.” (“Мендзы Лёндынэм і Варшаво”, Варшава, 1986, с. 356).

Як падае “Дзеньнік Польскі” 19 траўня 1990 году, у час прыватнага побыту ў Лёндане міністра замежных справаў ва ўрадзе Тадэвуша Мазавецкага, праф. Кшыштоф Скубішэўскі сказаў на прэс-канфэрэнцыі, што Польшча ня мае ніякіх прэтэнзіяў да сваіх даўнейшых усходніх земляў.

Аднак польскі ўрад на выганьні напамінае, што землі гэтыя былі захопленыя збройным нападам на Польшчу 17 верасьня 1939 году ў змове з гітлераўскай Нямеччынай. У Ялце ў 1945 годзе захоп гэты быў пацьверджаны заходнімі аліянтамі бяз згоды польскага ўраду ў Лёндане.

Як бачым, некаторыя палякі ніяк ня хочуць зразумець, што на гэтых землях, якія яны называюць сваімі, жылі спрадвеку народы, якія мелі сваю культуру, мову, пісьменнасьць, традыцыі, ды ў мінулым вялі войны з палякамі. І сёньня пасягаць на гэтыя землі могуць толькі хворыя на імпэрыялістычную манію захопнікі.

Крыстына Асіповіч піша, што з нагоды 60-й гадавіны Бужы” пад патранатам былога прэзыдэнта РП Рышарда Качароўскага, Беласток адзначыў гэтую дату. Раніцою ў гарадзкой базыліцы адбылася імша пры ўдзеле шматлікіх пачотаў са сьцягамі. Пасьля ля помніка жаўнерам АК зь беластоцкай, віленскай і навагрудзкай акругаў былі зложаныя вянкі й сказаныя прамовы. Наступна адбылася навуковая сэсія пад назовам “Акцыя Бужа”, у якой прымалі ўдзел варшаўскія, віленскія і беластоцкія гісторыкі. Была адкрытая выстава пад назовам “Ржавыя драты нас аддзяляюць ад Бацькаўшчыны...” Адкрываючы выставу былы прэзыдэнт Качароўскі сказаў: “Гісторыю пісалі вы - хто насіў мундзір альбо апаску АК... Перад дзецьмі й унукамі доўга хавалі тое, за што змагаліся бацькі й дзяды. Ёсьць шмат чаго да адрабленьня”.

Далей у гутарцы з карэспандэнтамі былы прэзыдэнт сказаў: “Для нас палякаў плян “Бужа”, а таксама Варшаўскае паўстаньне – гэта прыклад патрыятызму, ахвярнасьці й адданасьці вялікай справе, якою ёсьць польская дзяржава, вольная і незалежная.”

Аб акцыі “Бужа” ня раз пісала польская прэса. Ставілася пытаньне, ці была яна патрэбная? З пункту гледжаньня лёгікі - не. Быў гэта неабдуманы самазабойчы акт фанатыкаў, які закончыўся фіяскам. Аднак “Бужа” ўвайшла ў гісторыю Польшчы. Каштавала яна палякам сотні тысяч ахвяраў і разбурэньне Варшавы. Але, як лічаць некаторыя палякі, кроў, пралітая ў перамозе ці паражэньні, заўсёды мае сваю вартасьць.

**Юры ВЕСЯЛКОЎСКІ**

## Нашая фанатэка

# Сярэднявечча такое, як мы яго бачым

*“Стары Ольса” – “Скарбы Літвінаў”*, 2СК, Мн., 2004, ЗБС “Бацькаўшчына”.




Слухаючы гэты найноўшы альбом гурта “Стары Ольса”, я яшчэ глыбей прасякнуў у сутнасьць біблійнай ісьціны аб тым, што кожная рэч мае прынамсі два значэньні. Ну мяркуйце самыя: што такое папулярнасьць? Бадай, кожны адкажа, што гэта – і ўвага публікі, і посьпех, а значыць і заробкі, і ўрэчаісьненьне сэнсу працы ды самога жыцьця... Але-ж згадзіцеся, што ўвага не заўсёды бывае зычлівая. І акурат “Стары Ольса” спазнаў у інтэрнэце самыя заўзятыя наскокі з боку пільных дамарослых музыколягаў: маўляў, і альбомы ў гурта неканцэптуальныя, і паўторы ў іх назіраюцца, што нібыта сведчыць аб нястачы рэпэртуару. Ледзь не да высноваў, што гурт, маўляў, сьпёкся.

Але-ж усё гэта не таму, што гурт “Стары Ольса” самы горшы, а проста з прычыны ягонай актыўнасьці. Вунь-жа не нападаюць на вакальна-інструмэнтальны ансамбаль імя Ліста (пракатнага цэху Жлобінскага металюргічнага камбінату), хоць ён апрыёры ня лепшы.

Дык вось сапраўды: слухач і ў новым рэлізе спанатрыць слушнасьць папрокаў (зноў пачуем тут пару-тройку знаёмых трэкаў), але яшчэ больш грунтоўна пераканаецца, што калектыў не стаіць на месцы. Нават гэтыя знаёмыя трэкі (“Войцэх”, “Тотэнтанц”, “Гальярда-Балет”, “A que por”, “Літвін”) упершыню выходзяць у дыхтоўнейшым студыйным запісе. Дый сярод трох з паловаю дзесяткаў трэкаў гэтай праграмы ўсё адно пераважае настрой навізны.

Што яшчэ моцна зьмяняе іхнюю аўру – грунтоўная канцэпцыя альбому. Упершыню на гэты раз ды іншых творах ляжыць важная місія раскрыцьця ня толькі ўласнага зьместу, але і пэўнай глябальнай ідэі. Так што 2 CD “Скарбы Ліцвінаў” – гэта выразны адказ тым, каму не хапала канцэптуальнасьці ў творчасьці гурта. Тут ня проста мяшок літвінскіх скарбаў, а асэнсаваны погляд на нашую нацыянальную спадчыну часоў сярэднявечча (першы дыск) і часоў беларускага рэнесансу (другая кружэлка). Да таго-ж гэта першы беларускі канцэптуальны CD-двайнік. А гэта ўжо само сабою тэма для гаворкі пра адмысловую сьмеласьць музыкаў “Старога Ольсы”.

Бадай, час заглыбіцца ў сам настрой музыкі альбому. Асабіста мне кінулася ў слых наяўнасьць выразных фальклёрных мэлёдыяў у гэтым палацазамкавым дансінгу, асабліва часоў сярэднявечча. Кіраўнік гурта Зьміцер Сасноўскі ў нашай асабістай размове на гэты конт ня стаў аспрэчваць таго назіраньня, але слушна заўважыў: “Хіба ў творах Баха або Шапэна не адчуваецца фальклёрных уплываў? Усялякае мастацкае дрэва трывала расьце, калі здольнае заглыбіцца ў надзейны грунт векавых народных традыцыяў. Фольк зусім не прыніжае высокае мастацтва, а акрыляе яго, адухаўляе.”

Цікава, што гурт “Стары Ольса”, працуючы ў сфэры рэканструкцыі старадаўняй музыкі, зусім не пазбаўляе сябе творчай ініцыятывы. І тут я маю на ўвазе ня толькі наяўнасьць у ягоным рэпэртуары стылізаваных сучасных твораў, але і цікавае ды сьмелае паяднаньне набыткаў з розных крыніцаў. Хіба не з таго шэрагу хоць-бы народны танец “Цяцерка” з устаўкаю мэлёдыі старой беларускай песьні “Падушачка”? Між тым яго побач з народным-жа танцам “Удавец” і песьняй XV стагодзьдзя “Князь Вітаўт” я-б назваў новымі мегахітамі “Старога Ольсы”.

І тое зусім не азначае прыніжэньня статусу іншых твораў: уражвае і спроба рэканструкцыі старадаўняй беларускай ваярскай музыкі (“Штурм”, “Рыцар збройны” на мэлёдыю знакамітай народнай “Туман ярам”), сярэднявечнага гарадзкога танцу (“Войцэх”). А маршавае выкананьне беларускай песьні XVI стагодзьдзя “У каралеўскім войску” нібы ўвогуле спараджае новы твор, якога цяпер не напішаш, але ўсьведамляеш, што такога раней не было. Па-новаму загучала і знакамітая песьня-малітва “Багародзіца” XIV стагодзьдзя, якую мы памятаем зь беларускай дыскаграфіі ў выкананьні барда Аляксея Галіча, камэрнага хору “Унія” ды ў іншых варыянтах. Цяпер слухач адчуе моц ансамблевай энэргетыкі песьні.

Як сьведчаць самыя музыкі, асаблівы гонар яны адчуваюць за сваю рэвалюцыйную спробу аднавіць творы знакамітага “Полацкага сшытку” на аўтэнтычных інструмэнтах таго часу (перад тым гэта рабілася пераважна




на звычайным кансэрваторскім інструмэнтары або проста ў апрацоўцы для сучаснага кантынгенту). Такім чынам ім зноў удалося хоць і праз вялікія намаганьні, але вярнуць да жыцьця з доўгага летаргічнага сну нямала перлінаў беларускай сярэднявечнай музыкі.

Вось такім атрымаўся шосты альбом папулярнейшага беларускага гурта мэдыявальнай музыкі “Стары Ольса”. Адно шкада, што з-за фінансавых разборак выдаўцы сталіся няздольнымі выдаць гэты 2CD належным бокс-сэтам (ён выходзіць двума асобнымі дыскамі), таму слухачам давядзецца асобна пільнаваць, каб не застацца ўладальнікам якой-небудзь адной часткі – “Сярэднявечча” або “Рэнэсанс”. А яны-ж абедзьве вартыя ўвагі.

*Вітаўт МАРТЫНЕНКА*

# РЭЗАЛЮЦЫЯ 26-й Сустрэчы Беларусаў Паўн. Амэрыкі,

## прысьвечаная тэме “Праблемы захаваньня мовы, культурных набыткаў і гістарычных каштоўнасьцяў Беларусі”

**Праслухаўшы і абмеркаваўшы даклады і выступленьні падчас пленарных паседжаньняў і “круглых сталоў”, удзельнікі 26-й Сустрэчы Беларусаў Паўночнай Амэрыкі канстатуюць:**

1. Распад камуністычнай імпэрыі ў канцы 80-х гадоў мінулага стагодзьдзя выразна паказаў ступень гістарычнага і маральнага занядбаньня беларускай нацыі і пераемнасьць гэтага працэсу ў дачыненьні да Беларусі з часоў падзелу Рэчы Паспалітай і гвалтоўнага далучэньня нашых земляў да Расеі. Ня гледзячы на вонкавыя прыкметы незалежнасьці (дзяржаўныя сымбалі, урад і ўласны ўдзел у Арганізацыі Аб’ёднаных Нацыяў, нацыянальныя школы і г. д.), Беларусь усё больш страчвала нацыянальную культуру, мову і гістарычную арыентацыю і ператваралася ў невыразнае ўтварэньне ў рамках СССР, а яе нацыя і культура рабіліся палігонам для стварэньня так званай “адзінай савецкай нацыі” і, адпаведна, “адзінай савецкай культуры”.

2. Разам з тым у нетрах савецкай таталітарнай сыстэмы высьпела і засьведчыла сябе ў мастацкай творчасьці, навуцы ды культуры паўнавартасная, высокага ўзроўню беларуская нацыянальная інтэлігенцыя, якая змагла супрацьпаставіць афіцыйнай дэнацыяналізацыі ды русіфікацыі выразна выказаную яшчэ ў час утварэньня Беларускай Народнай Рэспублікі нацыянальную ідэю. Дзякуючы гэтаму ў час распаду СССР у канцы мінулага стагодзьдзя Беларусь змагла выкарыстаць свой гістарычны шанец – у 1991 годзе была афіцыйна абвешчаная яе незалежнасьць. Мы лічым, што аб’ектыўны факт – існаваньне незалежнай Беларусі – працуе на ейную будучыню.

3. З прыходам да ўлады сёньняшняга прэзыдэнта беларуская культура, угрунтаваная на роднай мове і нацыянальных каштоўнасьцях, зноў падпала пад уціск. Яе зноў спрабуюць пазбавіць гістарычнай і нацыянальнай арыентацыі, ператвараць у падмурак анты-беларускай ідэалёгіі, якая стаіць на постсавецкіх прынцыпах і вызнае будаўніцтва так званай “адзінай дзяржавы” з Расеяй. Такая палітыка вядзе да новага супрацьпастаўленьня ў грамадзтве, да расколу нацыі, які спрабуюць супыніць недастойнымі мэтадамі. Яскравыя прыклады – неаднаразовыя спробы зьнішчыць гістарычны мэмарыял “Курапаты”, разбурэньне габрэйскіх сьвятыняў і могілак, бандыцкія напады і зьбіцьцё інтэлігенцыі, закрыцьцё тэатру “Вольная сцэна”, Нацыянальнага гуманітарнага ліцэю імя Якуба Коласа, палітычная цэнзура ў органах друку, на радыё і тэлебачаньні, скарачэньне гадзінаў, адведзеных на вывучэньне беларускай літаратуры ў школах і ВНУ і многае іншае.

4. Праклямаванае Канстытуцыяй Рэспублікі Беларусь дзьвухмоўе на справе абярнулася выціскаsuccessful беларускай мовы з усіх сфэраў ужытку на карысьць мовы расейскай. Парушающца чалавечыя правы жыхароў Беларусі, якія жадаюць атрымліваць інфармацыю па-беларуску ў сродках масавай інфармацыі; здабываць на беларускай мове адукацыю, у тым ліку вышэйшую; камунікавацца па-беларуску на месцы працы і ў розных афіцыйных установах. Пры гэтым прэзыдэнт Беларусі ўжывае толькі мову суседняй дзяржавы, дазваляе сабе агідныя выказваньні ў бок гісторыі й культуры свайго народу.

**Удзельнікі 26-й Сустрэчы беларусаў Паўночнай Амэрыкі пастанаўляюць:**

1. Мы заяўляем рашучы пратэст супраць уціску і новай спробы саветызацыі нацыянальнай культуры, перасьледу яе дзеячоў, супраць зьмяншэньня сфэры ейнага ўплыву ў грамадзтве. Мы зьвяртаемся да ўраду Рэспублікі Беларусь, які адказвае за сёньняшні стан беларускага грамадзтва, з патрабаваньнем спыніць русіфікацыю краіны і перайсьці да вырашэньня надзённых задачаў па захаваньні й разьвіцьці беларускай культуры, якія ставіць сёньня перад нашай нацыяй час і гістарычныя абставіны.

2. Мы прапануем прыняць дзяржаўную праграму па гістарычнай адукацыі нашага народу, які на працягу доўгіх стагодзьдзяў знаходзіўся пад уплывам чужой і варожай яму ідэалёгіі і таму дэзарыентаваны ў галіне гістарычных ведаў.

3. Неабходна спыніць закрыцьцё беларускіх школаў і пачаць аднаўленьне беларусізацыі ўва ўсіх галінах культуры – музыкі, тэатру, кіно, драматургіі, кніжнага выдавецтва і іншых нацыяльных неабходных сфэрах духоўнага жыцьця Беларусі.

4. Вярнуць у школьныя праграмы выкінутыя за апошнія гады мастацкія творы, у тым ліку творы пісьменьнікаў-эмігрантаў, павялічыць колькасьць гадзінаў выкладаньня беларускай літаратуры, а таксама аднавіць школьныя экзамены па ёй.

5. Скасаваць палітычную цэнзуру на радыё і тэлебачаньні, даць магчымасьць адкрыта выказвацца як палітыкам, так і нацыянальным творцам, незалежна ад іх палітычных поглядаў.

6. Мы лічым, што асноваю захаваньня самасьвядомасьці беларусаў у замежжы ёсьць іх яднаньне на глебе павагі і любові да роднай зямлі, мовы, культуры, гісторыі і падтрыманьне ідэяў свабоднай, дэмакратычнай і незалежнай Беларусі.

7. Заклікаем усіх нашых суайчыньнікаў ствараць беларускія суполкі для захаваньня культурных, моўных і гістарычных каштоўнасьцяў у беларускай дыяспары. Кожны беларус, дзе-б ён ні знаходзіўся, адказны за лёс Беларусі. Мы, беларусы Паўночнай Амэрыкі, разумеем, што такая адказнасьць ляжыць на кожным і пачынаецца перш-наперш дома. Мы павінны заахвоціць нашых дзяцей размаўляць па-беларуску, расказваць сваім суседзям пра краіну нашага паходжаньня, рабіць даклады пра нашу Бацькаўшчыну ў школах і грамадзкіх цэнтрах.

8. Мацаваць сьвядомасьць беларусаў замежжа праз стварэньне мастацкіх гуртк оў, беларускіх суботніх клясаў для дзяцей і дарослых, праз пэрыядычныя выданьні (газэты “Беларус”, “Беларускае слова”, “Belarusian review”), інтэрнэт-старонкі (, цікавыя сайты для моладзі, інтэрнэт-кафэ, клубы знаёмстваў у інтэрнэце на беларускай мове), фэстывалі, сьвяты, сустрэчы, асабліва-ж урачыста адзначаць 25 сакавіка - Дзень Незалежнасьці, Слуцкі Збройны Чын, Купальле, часьцей праводзіць сумесныя адпачынкі.

9. Усталяваць больш шчыльныя кантакты з Згуртаваньнем беларусаў сьвету “Бацькаўшчына” (ЗБС), зь беларускімі суполкамі ў краінах і рэгіёнах.

10. Для фінансаваньня беларускіх праектаў праводзіць тлумачальную работу сярод эмігрантаў, амэрыканцаў і канадыйцаў з мэтаю збору сродкаў на грамадзкую дзейнасьць.

***Канада, Таронта, 5 верасьня 2004.***

## Акт аб дэмакратыі

*Працяг з бачыны 1*

ных партыяў і досьведу правядзеньня свабодных і справядлівых выбараў.

(d) УПАЎНАВАЖАНЬНЕ НА АСЫГНАВАНЬНЕ.—

(1) АГУЛЬНАЕ ПАЛАЖЭНЬНЕ.— Даецца ўпаўнаважаньне на асыгнаваньне Прэзыдэнту 30 000 000 даляраў на 2002-гі фінансавы год.

(2) НАЯЎНАСЬЦЬ СРОДКАЎ— Сумы, асыгнаваныя ў адпаведнасьці з параграфам (1), будуць наяўныя для ўжытку да поўнай іх затраты.

РАЗЬДЗЕЛ 4. ВЫДЗЯЛЕНЬНЕ СРОДКАЎ НА РАДЫЁВЯШЧАНЬНЕ ЎНУТРЫ БЕЛАРУСІ І НА БЕЛАРУСЬ

(a) АГУЛЬНЫЯ ПАЛАЖЭНЬНІ.— Мэта гэтага разьдзелу — павялічыць падтрымку незалежнаму і нецэнзураванаму радыёвяшчаньню ўнутры Беларусі і на Беларусь, якое-б дапамагло пашырэньню інфармацыі праз каналы, непадкантрольныя ўраду Лукашэнкі.

(b) ВЫДЗЯЛЕНЬНЕ СРОДКАЎ.— Ня менш за 5 000 000 даляраў з агульнай сумы, згаданай у Разьдзеле 3, будзе выдзелена выключна на праграму спрыяньня і падтрымкі незалежнага радыёвяшчаньня ў Беларусі і на Беларусь у дыяпазонах AM і FM, у тым ліку праграмаў Голасу Амэрыкі і Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода.

(c) СПРАВАЗДАЧНАСЬЦЬ У ПЫТАНЬНІ РАДЫЁВЯШЧАНЬНЯ Ў БЕЛАРУСІ І НА БЕЛАРУСЬ.— Не пазьней, чым праз 120 дзён пасьля ўступленьня ў дзеяньне гэтага Акту, дзяржаўны сакратар падасьць Камітэту замежных дачыненьняў Сэнату і Камітэту міжнародных дачыненьняў Палаты Прадстаўнікоў справаздачу аб тым, як сродкі, выдзеленыя ў адпаведнасьці з падразьдзелам (b), будуць ужытыя для пашырэньня радыёвяшчаньня ў дыяпазонах AM і FM, якое-б ахапляла тэрыторыю Беларусі і несла народу Беларусі інфармацыю, свабодную ад цэнзуры ўраду Лукашэнкі.

РАЗЬДЗЕЛ 5. САНКЦЫІ СУПРАЦЬ РЭЖЫМУ ЛУКАШЭНКІ

(a) УЖЫВАНЬНЕ ЗАХАДАЎ — Санкцыі, апісаныя ў гэтым разьдзеле і ў разьдзелах 6, 8 і 9, будуць ужываца ў дачыненьні да Беларусі, пакуль Прэзыдэнт ня вырашыць і не засьведчыць перад адпаведнымі камітэтамі Кангрэсу, што ўлады Беларусі зрабілі значны прагрэс у выкананьні ўмоваў, апісаных у падразьдзеле (b).

(b) УМОВЫ.— Згаданыя ў падразьдзеле (a) умовы гэткія:

(1) Вызваленьне ўсіх асобаў, якія былі зьняволеныя за іх палітычныя погляды.

(2) Адкліканьне ўсіх палітычна матываваных судовых абвінавачаньняў супраць усіх дзеячоў апазыцыі.

(3) Прадстаўленьне поўнай справаздачы аб тых лідэрах апазыцыі і журналістах, улучна зь Віктарам Ганчаром, Анатолем Красоўскім, Юрыем Захаранкам і Зьмітром Завадзкім, якія зьніклі пры таямнічых абставінах; пакараньне ўсіх адказных за гэтыя зьнікненьні.

(4) Спыненьне ўсіх формаў перасьледу і рэпрэсіяў супраць незалежных сродкаў масавай інфармацыі, няўрадавых арганізацыяў і палітычнай апазыцыі.

(5) Правядзеньне свабодных і справядлівых прэзыдэнцкіх і парляманцкіх выбараў.

(c) МІЖНАРОДНЫЯ ФІНАНСАВЫЯ ЎСТАНОВЫ.— Міністэрства Фінансаў Злучаных Штатаў дасьць рэкамэндацыі сваім выканаўчым дырэктарам у міжнародных фінансавых установах выступаць і галасаваць супраць любога выдзяленьня гэтымі ўстановамі любой фінансавай дапамогі любога віду (улучна з тэхнічнай дапамогай і грантамі) Ураду Беларусі, за выключэньнем пазыкаў і дапамогі, неабходных для забесьпячэньня асноўных гуманітарных патрэбаў.

(d) ВЫЗНАЧЭНЬНЕ МІЖНАРОДНЫХ ФІНАНСАВЫХ ЎСТАНОВАЎ.— У гэтым разьдзеле пад тэрмінам «міжнародныя фінансавыя ўстановы» разумеюцца Міжнародны Валютны Фонд, Міжнародны Банк Рэканструкцыі і Разьвіцьця, Міжнародная Асацыяцыя Разьвіцьця, Міжнародная Фінансавая Карпарацыя, Шматбаковае Агенцтва Гарантыі Інвэстыцыяў і Эўрапейскі Банк Рэканструкцыі і Разьвіцьця.

РАЗЬДЗЕЛ 6. БЛЯКАВАНЬНЕ БЕЛАРУСКІХ АКТЫВАЎ У ЗЛУЧАНЫХ ШТАТАХ

(a) БЛЯКАВАНЬНЕ АКТЫВАЎ.— Гэтым Актам блякуецца ўся маёмасьць і працэнты з маёмасьці, у тым ліку ўсе гандлёвыя, прамысловыя або абслуговыя прадпрыемствы або гаспадарчыя аб'екты, якія цалкам або часткова належаць Ураду Беларусі або любому прадстаўніку найвышэйшага кіраўніцтва Беларусі і знаходзяцца або апынуцца ў будучыні на тэрыторыі Злучаных Штатаў, або якія знаходзяцца або апынуцца ў будучыні пад кантролем або ў валоданьні асобаў Злучаных Штатаў, улучна зь іх замежнымі філіяламі.

(b) АЖЫЦЬЦЯЎЛЕНЬНЕ ПАЎНАМОЦТВАЎ.— Міністар фінансаў, кансультуючыся зь дзяржаўным сакратаром, будзе прадпрымаць згаданыя дзеяньні, у тым ліку выдаваць распараджэньні, загады, дырэктывы, пастановы, інструкцыі і ліцэнзіі, а таксама ўжываць усе паўнамоцтвы, нададзеныя Прэзыдэнту на падставе Акту аб надзвычайных міжнародных эканамічных паўнамоцтвах, калі гэта будзе неабходна для выкананьня падразьдзелу (a).

(c) ЗАБАРОНЕНЫЯ ПЕРАЛІЧЭНЬНІ.— Банкавыя пералічэньні, забароненыя на моцы падразьдзелу (b), улучаюць у сябе пералічэньні і пераводы любой маёмасьці або любыя трансакцыі, зьвязаныя з пераводам усяго, што можа мець эканамічную вартасьць, любою асобаю Злучаных Штатаў Ураду Беларусі або любой фізічнай або юрыдычнай асобе, якія дзейнічаюць ад імя Ураду Беларусі, або падуладнай гэтаму Ураду або кантраляванай ім непасрэдна або ўскосна, або любому іншаму прадстаўніку найвышэйшага кіраўніцтва Беларусі.

(d) АПЛАТА ВЫДАТКАЎ. — Усе выдаткі, зьвязаныя з блякаваньнем і ўтрыманьнем маёмасьці, заблякаванай у адпаведнасьці з падразьдзелам (a), будуць ускладзеныя на ўладальнікаў або апэратараў гэткай маёмасьці, пры гэтым выдаткі ня будуць аплочвацца з блякаваных фондаў.

(e) ЗАБАРОНЫ.— Наступныя дзеяньні будуць забароненыя ад дня ўступленьня ў дзеяньне гэтага Акту:

(1) Экспарт любому суб'екту, прыналежнаму, кантраляванаму або кіраванаму непасрэдна або ўскосна Урадам Беларусі, любых тавараў, тэхналёгіяў або паслугаў, як—

(A) са Злучаных Штатаў;

(B) калі пры гэтым неабходнае атрыманьне ад Фэдэральнага агенцтва ліцэнзіі на экспарт; гэтак і

(C) зьвязаны з выкарыстаньнем зарэгістраваных у Злучаных Штатах караблёў або самалётаў, або любая дзейнасьць, што спрые або разьлічаная на спрыяньне такому экспарту.

(2) Выкананьне любою асобаю Злучаных Штатаў любых кантрактаў, у тым ліку фінансавых, скіраваных на падтрымку прамысловых, гандлёвых або абслуговых прадпрыемстваў, кіраваных, кантраляваных Урадам Беларусі або прыналежных яму.

(f) ВЫКЛЮЧЭНЬНІ.— Насуперак усім іншым палажэньням гэтага разьдзелу, гэты разьдзел не датычыцць—

(1) дапамогі, прадугледжанай у разьдзелах 3 і 4 гэтага Акту;

(2) матэр'ялаў, апісаных у разьдзеле 203(b)(3) Акту аб надзвычайных міжнародных эканамічных паўнамоцтвах; або

(3) матэрыялаў, дасланых у Беларусь у якасьці гуманітарнай дапамогі.

(g) ЮРЫДЫЧНАЕ ТЛУМАЧЭНЬНЕ.— Гэтым Актам не забараняюцца любыя кантракты або іншыя фінансавыя трансакцыі зь любымі прыватнымі асобамі або няўрадавымі арганізацыямі і фірмамі ў Беларусі.

РАЗЬДЗЕЛ 7. ЗАБАРОНА ЎЕЗДУ Ў ЗЛУЧАНЫЯ ШТАТЫ БЕЛАРУСКІМ АФІЦЫЙНЫМ АСОБАМ

Кангрэс лічыць, што Прэзыдэнту належыць ужыць свае паўнамоцтвы ў адпаведнасьці з разьдзелам 212(f) Акту аб іміграцыі і грамадзянстве (Зб. Зак. ЗША, 8, 1182(f)) і часова пазбавіць права на ўезд у ЗША любога замежнага грамадзяніна, які—

(1) займае пасаду ў найвышэйшым кіраўніцтве Беларусі; або

(2) зьяўляецца сужэнцам, непаўнагадовым дзіцём або прадстаўніком асобы, якой забаронены ўезд на падставе параграфу (1).

РАЗЬДЗЕЛ 8. ЗАБАРОНА СТРАТЭГІЧНАГА ЭКСПАРТУ Ў БЕЛАРУСЬ

Кампутары, праграмнае забесьпячэньне, тавары, прызначаныя для вытворчасьці або абслугоўваньня кампутараў, тэхналёгіі, прызначаныя для вытворчасьці або абслугоўваньня кампутараў, або любыя іншыя тавары ці тэхналёгіі ня могуць быць экспартаваныя Ўраду Беларусі або для ўжытку Ураду Беларусі або для гэткіх структураў гэтага ўраду:

(1) Войска.

(2) Міліцыі.

(3) Сыстэмы турмаў.

(4) Службаў нацыянальнай бясьпекі.

РАЗЬДЗЕЛ 9. ЗАБАРОНА НА ПАЗЫКІ І ІНВЭСТЫЦЫІ

(a) ФІНАНСАВАНЬНЕ ЎРАДАМ ЗЛУЧАНЫХ ШТАТАЎ.— Ніякія пазыкі, крэдытныя гарантыі, страхоўкі, фінансаваньне або іншыя віды фінансавай дапамогі ня могуць быць выдзеленыя Ўраду Беларусі ніякім урадавым агенцтвам Злучаных Штатаў (у тым ліку Экспартна-Імпартным Банкам і Карпарацыяй Замежнага Прыватнага Інвэставаньня).

(b) ГАНДАЛЬ І РАЗЬВІЦЬЦЁ.— Ніякія выдзеленыя законам сродкі ня могуць быць прызначаныя на дзейнасьць Агенцтва Гандлю і Разьвіцьця ў Беларусі або для Беларусі.

(c) ДЗЕЯНЬНІ ТРЭЦЯЙ КРАІНЫ.— Кангрэс заклікае дзяржаўнага сакратара заахвоціць усе іншыя краіны, асабліва краіны Эўропы, прыпыніць усе іх праграмы падтрымкі Ўраду Беларусі, падобныя да апісаных у падразьдзелах (a) і (b), у тым ліку праграмы пераразмеркаваньня сплаты запазычанасьцяў гэтага ўраду пры больш спрыяльных умовах.

(d) ЗАБАРОНА ПРЫВАТНАГА КРЭДЫТАВАНЬНЯ.— Ніякая асоба Злучаных Штатаў ня можа выдаць або зацьвердзіць ніякую пазыку або нейкае іншае крэдытаваньне непасрэдна або ўскосна Ўраду Беларусі або любой карпарацыі, кампаніі ці іншай арганізацыі, якая належыць Ураду Беларусі, кіруецца або кантралюецца ім.

РАЗЬДЗЕЛ 10. АДМОВА Ў СТАСАВАНЬНІ АБАГУЛЬНЕНАЙ СЫСТЭМЫ СПРЫЯНЬНЯ (АСП)

(a) ВЫЯЎЛЕНЫ ФАКТ.— Кангрэс выявіў, што Ўрад Беларусі не жадае паважаць міжнародна прызнаныя правы працоўных.

(b) АДМОВА Ў ЛЬГОТАХ ПАВОДЛЕ АСП.— Кангрэс ухваляе пастанову Ураду Злучаных Штатаў адмовіць Беларусі ў падатковых льготах на падставе часткі V Закону аб гандлі 1974 году (Абагульненая Сыстэма Спрыяньня).

РАЗЬДЗЕЛ 11. ШМАТБАКОВЫЯ САНКЦЫІ

Кангрэс лічыць, што Прэзыдэнту належыць працягваць спробы каардынацыі зь іншымі краінамі, асабліва краінамі Эўропы, шырокамаштабнай шматбаковай стратэгіі, скіраванай на дасягненьне мэтаў гэтага Акту, у тым ліку пры неабходнасьці заахвочваць іншыя краіны прымаць захады, падобныя да апісаных у гэтым Акце.

РАЗЬДЗЕЛ 12. УЛАСНАСЬЦЬ НА ДЫПЛЯМАТЫЧНУЮ І КОНСУЛЬСКУЮ МАЁМАСЬЦЬ І ЯЕ ВЫКАРЫСТАНЬНЕ

Кангрэс лічыць, што калі недэмакратычны і нелегітымны Урад Беларусі ўступіць у саюз з Расейскай Фэдэрацыяй, што прывядзе да страты сувэрэнітэту Беларусі, Злучаныя Штаты неадкладна пазбавяць усіх прывілеяў і імунітэту, прадугледжаных Венскай канвэнцыяй аб дыпляматычных дачыненьнях, пэрсанал і маёмасьць Ураду Беларусі і запатрабуюць неадкладнага выезду гэтага пэрсаналу са Злучаных Штатаў.

РАЗЬДЗЕЛ 13. СПРАВАЗДАЧНАСЬЦЬ

(a) АГУЛЬНЫЯ ПАЛАЖЭНЬНІ.— Не пазьней, чым праз 90 дзён пасьля ўступленьня ў дзеяньне гэтага Акту, і кожны год пасьля гэтага Прэзыдэнт будзе падаваць справаздачу адпаведным камітэтам Кангрэсу наконт—

(1) дапамогі і тавараў, атрыманых Беларусьсю ад іншых замежных краінаў за папярэдні 12-месячны пэрыяд;

(2) продажу Беларусьсю зброі і зьвязаных са зброяй тэхналёгіяў за гэты 12-месячны пэрыяд;

(3) дачыненьняў паміж рэжымам Лукашэнкі і Ўрадам Расейскай Фэдэрацыі; і

(4) асабістых актываў і маёмасьці Аляксандра Лукашэнкі ды іншых высокапастаўленых кіраўнікоў Ураду Беларусі.

(b) ЭЛЕМЭНТЫ СПРАВАЗДАЧЫ.— Кожная справаздача, згаданая ў падразьдзеле (a), будзе зьмяшчаць гэткія элемэнты, у залежнасьці ад аб'ёму ведамай інфармацыі за справаздачны пэрыяд—

(1) апісаньне ўсёй дапамогі, у тым ліку гуманітарнай, перададзенай Ураду Беларусі замежнымі ўрадамі і міжнароднымі ўстановамі;

(2) апісаньне гандлю Беларусі з замежнымі краінамі, у тым ліку пералік галоўных гандлёвых партнэраў Беларусі і аб'ём гэткага гандлю;

(3) апісаньне закончаных або выкананых супольных праектаў замежных грамадзянаў, зьвязаных з аб'ектамі ў Беларусі; і

(4) пералік краінаў, якія закупляюць або закупілі ў Беларусі зброю або боепрыпасы, або ўступілі з урадам Беларусі ў пагадненьні ваеннага характару, у тым ліку—

(A) апісаньне ваенных прыпасаў, абсталяваньня або іншых матэр'яльных сродкаў, прададзеных, перададзеных як бартэр або абмененых паміж Беларусьсю і гэткімі краінамі; і

(B) сьпіс тавараў, паслугаў, крэдытаў або іншых відаў кампэнсацыі, атрыманых Урадам Беларусі ўзамен за ваенныя прыпасы, абсталяваньне або матэр'яльныя сродкі.

РАЗЬДЗЕЛ 14. ПАЗЫЦЫЯ КАНГРЭСУ

Гэтым самым Кангрэс—

(1) выказвае сваю падтрымку тым людзям у Беларусі, хто імкнецца—

(A) спрыяць пашырэньню дэмакратыі і прынцыпаў прававой дзяржавы, умацоўваць незалежнасьць і сувэрэнітэт Беларусі; і

(B) спрыяць яе інтэграцыі ў эўрапейскую супольнасьць дэмакратычных дзяржаваў;

(2) выказвае сур'ёзную занепакоенасьць зьнікненьнем Віктара Ганчара, Анатоля Красоўскага, Юрыя Захаранкі, Зьмітра Завадзкага ды іншых дзеячоў апазыцыі і журналістаў;

(3) заклікае рэжым Лукашэнкі спыніць перасьлед палітычных апанэнтаў і вызваліць тых, хто, як Андрэй Клімаў, быў зьняволены за супраціў рэжыму;

(4) заклікае рэжым Лукашэнкі паважаць фундамэнтальныя свабоды слова, выказваньня, сходаў, асацыяцыяў, мовы і рэлігіі;

(5) заклікае рэжым Лукашэнкі дазволіць правядзеньне парляманцкіх і прэзыдэнцкіх выбараў, якія-б былі свабодныя і справядлівыя і поўнасьцю адпавядалі-б міжнародным стандартам;

(6) заклікае Урад Расеі, Дзяржаўную Думу і Савет Фэдэрацыі спыніць падтрымку, у тым ліку фінансавую, рэжыму Лукашэнкі і ў поўнай меры паважаць сувэрэнітэт і незалежнасьць Рэспублікі Беларусь;

(7) заклікае Ўрад Беларусі вырашыць працяглы канстытуцыйны і палітычны крызыс шляхам правядзеньня свабодных, справядлівых і празрыстых выбараў пры выкананьні гэткіх патрабаваньняў Арганізацыі Бясьпекі і Супрацоўніцтва ў Эўропе (АБСЭ), сябрам якой зьяўляецца Беларусь—

(A) забясьпечыць захаваньне правоў чалавека;

(B) пакласьці канец цяперашняй атмасфэры страху;

(C) даць апазыцыі неабходны доступ да дзяржаўных сродкаў масавай інфармацыі;

(D) зьмяніць выбарчае заканадаўства, зрабіўшы яго больш дэмакратычным;

(E) распачаць сапраўдныя перамовы з апазыцыяй;

*Працяг на бачыне 8*

# Паўло АНДРУСЫШЫН (27.09.1924 - 25.09.2004)



25 верасьня сёлета адыйшоў у вечнасьць у сваёй кватэры ў прысутнасьці сям'і сьв. памяці Павал Андрусышын. Быў ён украінцам, нарадзіўся 27 верасьня 1924 году на Тарнопальшчыне ў Заходняй Украіне. Вызначаўся ня толькі прыгажосьцю, але і добрым, спагадлівым характарам, заўсёды быў гатовым дапамагчы кожнаму ў патрэбе.

Пахавальныя ўрачыстасьці адбыліся ва ўкраінскай каталіцкай царкве Сьв. Юрага ў Нью Ёрку, а пахаваньне на беларускіх могілках у Нью Брансьвіку, Нью Джэрзі.

Сьв. памяці Павал прыйшоў у беларускую грамаду дзякуючы сужэнству зь Юляй Каханоўскай. На працягу 50 гадоў дзяліў лёс нашай эміграцыі: браў актыўны ўдзел у грамадзкай працы, у нашых радасных і сумных урачыстасьцях. Супольна зь Юляй тварылі прыгожую сям'ю, якая працягвала найлепшыя патрыятычныя луцкевічаўскія традыцыі грамадзка-палітычнай дзейнасьці, гасьцінасьці, пашаны да мастацтва; адначасова ў гэтым-жа духу падтрымлівалі ўкраінскую спадчыну.

У духу гэтых традыцыяў выхавалі двух сыноў: Юрага, адваката з прафэсіі, які асабліва вызначыўся, калі на беларускую эміграцыю нападалі паклёпамі бальшавікі праз розных лофтусаў ды саваласаў; Багдана (Данчыка), журналіста з асьветы й працы, які, дзякуючы ўроджанай харызме, прыгожаму голасу ды створанаму ім патрыятычнаму рэпэртуару, паездкамі з канцэртамі ў Беларусі адыграў вялікую ролю ў палітычным і культурным адраджэньні нацыі.

Кватэра спадарства Андрусышыных у Нью Ёрку і "родны кут" у Кэцкільскіх гарах заўсёды гасьцінна віталі выдатных дзеячоў зь Беларусі розных кірункаў, якія прыяжджалі ў Амэрыку на зьезды ці з канцэртамі.

Ня гледзячы на цяжкую хваробу, сьв. памяці Павал не паддаваўся, ня траціў жыцьцёвага аптымізму і, уроджанага яму, пачуцьця гумару. Ягоны аптымізм стараліся падтрымаць сям'я і прыяцелі. І выказваньне Лэсі Ўкраінкі "Бэз надії такі сподіваюся", выказанае Васілём Быкавым у апошняй кніжцы "Доўгая дарога дадому", не было для яго пераконлівымі. Ён казаў: "Буду жыць, колькі мне прызначана". А прызначэньне, нажаль, сталася фатальным.

У нас беларусаў так ужо ўвайшло ў традыцыю, што найлепшыя нашыя людзі адходзяць ад нас да суседзяў. А вось што суседзі прыходзяць да нас і аддаюць нашаму народу свае здольнасьці – маўчым. Сьв. памяці Павал належыць да тых, хто прыйшлі да нас і сымпатыі свае дзялілі з намі не забываючыся пра сваё.

У глыбокім смутку засталіся жонка Юля, сыны Юры з жонкаю Даянай, Багдан, цешча Яніна Каханоўская.

Дык няхай будзе вечная памяць і ўдзячнасьць яму!

***Антон ШУКЕЛОЙЦЬ***

# Васіль МЕЛЬЯНОВІЧ (28.08.1934 - 06.10.04)



6 кастрычніка 2004 году ў Брансьвіку, штат Агаё, адыйшоў ад нас яшчэ адзін сапраўдны Беларус. Ягоны лёс тыповы для ягонага пакаленьня.

Нарадзіўся Васіль 28 жніўня 1934 году ў палескай вёсцы Азарніца. Потым была вайна, праца ў Нямеччыне на фабрыцы, беларускі лягер ДП, беларуская гімназія.

Эміграваў у Амэрыку ў 1950 годзе. З красавіка 1954 году да сакавіка 1956 служыў у амэрыканскім войску ў зоне Панамскага каналу. У 1963 годзе атрымаў ступень бакаляўра інжынера ў Нью Ёрскім унівэрсытэце, а ў 1972 годзе кандыдата навук ва Ўнівэрсытэце Джорджа Вышынгтона. Працаваў у тэлефоннай кампаніі AT&T, адкуль выйшаў на пэнсію ў 1989 годзе.

І ўсё жыцьцё думкі пра Беларусь, туга па радзіме, ахвярная праца на яе карысьць. Праца ў Кангрэсовым камітэце, у галоўнай кватэры Рэспубліканскай партыі ЗША, супрацоўніцтва з Дзяржэпартаментам, з інфармацыйнымі агентвамі й грамадзкімі арганізацыямі. Паездкі ў Беларусь, сустрэчы з палітыкамі. Сп. Мельяновіч сустракаўся з Р. Рэйганам, быў асабіста знаёмы з Дж. Бушам-старэйшым, сябраваў з амбасадарам Мэтлакам, яго добра ведалі беларускія пісьменьнікі й грамадзкія дзеячы. Ён быў і будзе найлепшым прыкладам ахвярнасьці для Бацькаўшчыны.

У прыватным жыцьці гэта быў вельмі сьціплы й дабразычлівы чалавек, гатовы дапамагчы ў любы час. Некалькі сем'яў маладых эмігрантаў зь Беларусі знайшлі прытулак і дапамогу ў ягонай хаце.

Апошнія месяцы жыцьця, пакутуючы ад хваробы, Васіль працягваў сачыць за падзеямі ў Беларусі. Апошнім ягоным жаданьнем было: быць пахаваным дома, каля магілы дзеда...

Вечная табе, Васіль, памяць.

***Сябры, сёстры, дачка Люба***

22 кастрычніка спаўняецца 85 гадоў др. Раісе ЖУК-ГРЫШКЕВІЧ, адной з заснавальнікаў Згуртаваньня Беларусаў Канады, заснавальніцы й шматгадовай старшыні Каардынацыйнага Камітэту Беларусаў Канады. Віншуем і зычым здароўя і аптымізму.

*Сябры Рады БНР*

## Акт аб дэмакратыі

*Працяг з бачыны 7*

(F) надзяліць парлямант рэальнай уладай.

(8) заклікае іншыя ўрады адмовіцца ўжываць у якасьці дыпляматычных рэзыдэнцыяў або дзеля любых іншых мэтаў памяшканьні, забраныя рэжымам Лукашэнкі ў беларускай палітычнай апазыцыі;

(9) заклікае міжнародную супольнасьць, у тым ліку Ўрад Расеі, адмовіцца ратыфікаваць або прызнаваць любыя дамовы, падпісаныя Аляксандрам Лукашэнкам або любым іншым службоўцам ягонага ўраду.

(10) высока ацэньвае дэмакратычную апазыцыю Беларусі за яе адданасьць свабодзе, за адвагу перад жорсткімі рэпрэсіямі рэжыму Лукашэнкі і за еднасьць і супрацоўніцтва розных палітычных партыяў і няўрадавых арганізацыяў, выяўленыя падчас парляманцкіх выбараў 2000 году і прэзыдэнцкіх выбараў 2001 году, і заклікае дэмакратычную апазыцыю Беларусі захоўваць надалей гэтую еднасьць і супрацоўніцтва ў намаганьні пакласьці канец Лукашэнкавай дыктатуры.

РАЗЬДЗЕЛ 15. ВЫЗНАЧЭНЬНІ

У гэтым Акце:

(1) НАЙВЫШЭЙШАЕ КІРАЎНІЦТВА БЕЛАРУСІ.— У тэрмін «найвышэйшае кіраўніцтва Беларусі» ўключаюцца—

(A) прэзыдэнт Беларусі, прэм'ер-міністар, віцэ-прэм'еры, міністры ўраду і віцэ-міністры;

(B) старшыня Нацыянальнага Банку Беларусі;

(C) службоўцы Камітэту Дзяржаўнай Бясьпекі Беларусі, міліцыі і любых іншых рэпрэсіўных органаў;

(D) любыя службоўцы Ўраду Беларусі, якія маюць дачыненьне да здушэньня свабоды ў Беларусі, у тым ліку судзьдзі і пракуроры;

(E) любыя службоўцы Ўраду Беларусі, непасрэдна прызначаныя Аляксандрам Лукашэнкам; і

(F) службоўцы прэзыдэнцкай адміністрацыі.

(2) ЗЛУЧАНЫЯ ШТАТЫ.— Тэрмін «Злучаныя Штаты» азначае штаты Злучаных Штатаў, акругу Калюмбія і ўсе іншыя садружнасьці, залежныя тэрыторыі і валоданьні Злучаных Штатаў.

(3) АСОБА ЗЛУЧАНЫХ ШТАТАЎ.— Тэрмін «асоба Злучаных Штатаў» азначае ўсіх рэзыдэнтаў або грамадзянаў Злучаных Штатаў (апрача паасобных рэзыдэнтаў за межамі Злучаных Штатаў, нанятых на працу нейкім іншым апрача асобаў Злучаных Штатаў), усе мясцовыя фірмы (у тым ліку ўсе замежныя фірмы, што стала дзейнічаюць у Злучаных Штатах) і ўсе замежныя дачныя фірмы або філіялы (у тым ліку тыя, што стала дзейнічаюць за мяжою) усіх мясцовых фірмаў, якія фактычна кантралююцца такімі мясцовымі фірмамі, у адпаведнасьці з распараджэньнямі Прэзыдэнта.

Беларускі музычны партал "Слыхавы апарат" (*http://www.slyhap.com*) выступае арганізатарам сустрэчы беларускай моладзі ў ЗША, якая пройдзе 7-га сьнежня 2004 году.

У праграме эксклюзыўны канцэрт вядомага музыкі Лявона Вольскага (NRM, Krambambula). Любімыя і новыя песьні, задушэўныя размовы.

Сустрэча адбудзецца ў гарадку Rehoboth Beach, KE.

Рэгістрацыя абавязковая. Дашліце ліст на *lobay@tut.by* пазначыўшы імя, телефон і горад жыхарства.

Месца правядзеньня: Atlantic Sands Hotel & Conference Center, 101 North Boardwalk, Rehoboth, KE, room: Swan Ballroom (3rd floor). Пачатак а 7 p.m.

## НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД ГАЗЭТЫ "БЕЛАРУС" АХВЯРАВАЛІ:

| | |
|---|---|
| С. і Т. Раманюк | 100 |
| А. Субота | 40 |
| К. Акула | 30 |
| А. Дубавец | 30 |
| І. Панкевіч | 30 |
| Л. Пузач | 30 |
| В. Смольская | 30 |
| П. Сурвілла | 30 |
| Т. Тулейка | 30 |
| В. Заморская | 20 |

**Замест кветак на магілу Паўла Андрусышына:**

| | |
|---|---|
| А. Орса-Романо | 75 |
| Б. і Т. Русак | 35 |

**Усім шчыры дзякуй!**


**БЕЛАРУС**

*Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце*

Выдае штомесячна: **Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне**

Сусьветнае сеціва: *baza-belarus.org*

Падпіска $30 на год.

Чэкі выпісвайце на BIELARUS

**BIELARUS**

*Belarusan Newspaper in the Free World*

Published monthly by **Belsrusan American Ass'n, Inc.**

Subscription $30 yearly

Make checks payable to ***BIELARUS***

Рэдагуе калегія.

Адказны рэдактар Марат КЛАКОЦКІ

Падпіска Сяргей ТРЫГУБОВІЧ

Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам ці ініцыяламі, могуць зьмяшчаць пагляды, зь якімі Рэдакцыя не згаджаецца.

Перадрук дазваляецца толькі пры ўмове зазначэньня крыніцы.





Адрас для допісаў і кантактаў:

***BIELARUS***
***P.O. Box 3225***
***Farmingdale, NY 11735***

E-mail: ***hazetabielarus@att.net***

Сусьветнае сеціва: ***www.bielarus.org***


ISSN 1054-9455